PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 47 (1906) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 22 ЛІСТАПАДА 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## ПАМІЖ ДЭМАКРАТЫЯЙ І НАЦЫЯНАЛІЗМАМ

*Сёння прапануем нашым чытачам артыкул Адама Міхніка, які ўпершыню надрукаваны быў у нямецкім часопісе „Шпігель" і выклікаў бурлівую дыскусію ў еўрапейскім друку. У наступным нумары нашага тыднёвіка апублікуем крытычныя заўвагі Алеся Чобата з Гародні да галоўных тэзісаў, змешчаных у гэтым жа артыкуле.*

**Рэд.**

Нацыянальны канфлікт у Югаславіі — гэта толькі малая частка падобных канфліктаў ва Усходняй Еўропе. Адзін знаёмы серб напомніў мне выказванне Ф. Грыльпарцэра пра тое, што перамога нацыяналізму над гуманізмам адкрывае тыранам шлях да ўлады. Гэтае папярэджанне для любога з нашых народаў застаецца актуальным.

У краінах усходняй Еўропы сапраўды адбываецца рэвалюцыя — пакаёвая, „аксамітная", якая хочаце, але рэвалюцыя. А кожная рэвалюцыя ў сваім

 *Працяг на стар. 4*



**Пажарышча каля Елянкі ў Кляшчэлеўскай гміне (у ліпені г.г. агонь знішчыў тут 150 гектараў маладога лесу).** *Фота Міколы Ваўранюка*

## ПОЛЬСКІ СПІРТ ДЗЯРЭ ЗА ГЛОТКУ

**"Спірт тут рабілі за санацыі і за дэмакратыі, за немца і за савета, - кажа апальшчык Ян Роса, - і заўсёды аплачвалася. Толькі цяпер такі час прыйшоў, што аплачвацца перастала".**

Спіртавы завод ў Паканеве, каля Мілейчыц, збудавалі яшчэ за цара, у 1907 годзе. Пасля апошняй вайны быў ён даволі моцна разрушаны, але адрамантавалі яго, паднялі сцены і зноў пусцілі ў рух. Тэхналогія прадукцыі тут простая і за ўвесь гэты час не пераходзіла спецыяльных тэхналагічных абнаўленняў.

Завод гэты з'яўляецца цяпер уласнасцю ПГРа Бельск-Падляшскі. Што эканамічная сітуацыя цэлага камбіната /6 тысяч гектараў, 370 працаўнікоў у 8 гаспадарках/ не зайздросная, відаць ужо ў сядзібе дырэкцыі. Раней ПГРаўская адміністрацыя займала цэлы паверх будынка ў цэнтры Бельска, цяпер трэба задаволіцца двума невялічкімі пакойчыкамі, дзверы да якіх застаўлены панцырный шафай і цэлай кучай нейкіх скрынак. Ужо далей нам няма куды адступаць, смяюцца сакратаркі, за намі сцяна, двор.

Дырэктар Анджэй Колек кажа, што бельскі ПГР дабіваецца, каб пераняло яго Агенцтва сельскагаспадарчага рынку. Пакуль што працэс гэты ідзе марудна. Агенцтва не квапіцца браць на сябе абавязацельствы задоўжанага камбіната. Але і так да канца 1993 года ПГРы перастануць існаваць, а іхную уласнасць успомненае Агенцтва да тае пары пераняць павінна.

Пытаюся дырэктара пра гарэльню ў Паканеве. "У нас дзве гарэльні, - кажа ён, - другая ў Петкавіцах. Абедзве стаяць ужо з вясны. Прычына тут простая: прадукт вельмі танны, а сыравіна надта дарагая, не калькулюецца. Каб я мог купіць жыта дзесьці па 100-120 тысяч злотых за цэнтнер, дык гэтыя заводы пускаў бы. Але тады яшчэ не было б даходу, от толькі ўсяго, каб не стаялі".

У Паканева дабіраюся я з боку Дзядковіц. Пакінуўшы шашу Бельск - Сямяцічы трапляю я то на выбіты брук, то на раз'езджаную жвіроўку. Увесь час трэба ўзірацца пад колы, каб не застрагнуць у якойсьці калюзе ды штораз звяраць павароты з картай. Калі дзе і відно які ўказальнік, дык і той даўно ўжо іржа з'ела.

Гарэльню бачу здалёк, дзякуючы высокаму коміну. Побач стаіць блёк для працаўнікоў. За заводам вялікія рыбныя сажалкі - таксама ПГРаўскія. На месцы пераконваюся, што сапраўды гарэльня гатовая пачаць прадукцыю ў любы момант. Нават ячмень, які выкарыстоўваецца ў працэсе ферментацыі, ляжыць у мяшках. Па заводзе ходзяць працаўнікі, штосьці рамантуюць, штось мяняюць, падмятаюць. Чакаюць лепшай

 *Працяг на стар. 3*



*Гарэльня ў Паканеве можа ў любы момант узнавіць прадукцыю.*

## Я ЗА КАПІТАЛІЗМ У АХОВЕ ЗДАРОЎЯ

Да лекара мне трэба было пайсці ўжо даўно. Але візіт неяк адцягваўся, заўсёды было нешта больш важнае да работы. Урэшце дайшоў я да такога, што і сам убачыў - больш адкладваць нельга. Каб усё адбылося як найпрасцей і як найхутчэй, падаўся я да прыватнага лекара - у кааператыў. Доктар абстукала-апукала мяне ды яшчэ распытала дакладна, затым вырашыла: трэба зрабіць грунтоўнае і ўсебаковае абследаванне здароўя. І выпісала адпаведную паперыну-накіраванне.

З накіраваннем пайшоў я ў шпіталь у Бельску. Там, а як жа, абследавалі мяне дакладна, узялі для даследаў мачу і кроў і сказалі, што... за ўсё мушу я заплаціць, бо ў мяне дрэннае накіраванне - з кааператыва, а не з дзяржаўнай амбулаторыі. Я, зразумела, заплаціў - мне далі нават нейкае пасведчанне, якое я ўсунуў у кішэню нават не разглядаючы яго. Толькі ўдома жонка дагледзелася што я, быццам бы добраахвотна, ахвяраваў гэтыя грошы на дапамогу бельскаму шпіталю. Вось як!

З гэтым аднаразовым "добраахвотным" узносам можна было б змірыцца. Але ж я ўсяго ў палавіне лячэння. З вынікамі даследаў мне зноў трэба ісці да лекара. І зноў плаціць? Зноў так сама "добраахвотна" і на якую мэту на гэты раз?

Тут дайшло да мяне, што такія дабравольныя ўзносы прыношу штомесяц пад пастацыю страхоўкі. Дабравольнасць тут дакладна такая самая як у шпіталі. Ніхто не пытаў мяне, ці хачу я страхавання, ні на якую суму. Выходзіць, што плачу кожны месяц я на нейкую абстрактную справу, але калі захварэю, дык за лячэнне зноў мне трэба будзе заплаціць. Толькі не от так проста, за медыцынскую паслугу, а зноў буду ахвяроўваць грошы на дапамогу службе аховы здароўя /усе ж ведаем, у якім яна стане, хто ж адмовіўся б і г.д./.

Не люблю я такога круцельства. Ці не лепш было б, каб ад мяне не забіралі штомесяц грошай на нейкую страхоўку. Затое мог бы я пайсці да такога лекара, да якога захацеў бы. Выбраў бы, вядома, адпаведнага на мой кашалёк. І ні ён мне не рабіў бы ласкі, ні я яму. Ён выконваў бы сваю прафесію, за што я і плаціў бы яму. А калі б ён вельмі ж мне дапамог, мог бы я тады з добрай волі і падбавіць яму тысячу-дзве. Простае, праўда?

Але яшчэ прасцей было б не хварэць увогуле. Людзі ж кажуць: лепш быць багатым і здаровым, чымсьці бедным і хворым. Святая праўда.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*... Rewolucja październikowa była więc nieszczęśliwym wypadkiem. Niektórzy wykształceni ludzie skłaniali się mimo to ku konkluzji, że niezupełnie był to wypadek; cały proces powolnej liberalizacji, począwszy od reform Aleksandra II winien raczej być widziany, ich zdaniem, jako historyczne interludium; bolszewicy przywracając — pod innymi nazwami — poddaństwo i niewolnictwo cofnęli się do koncepcji „naturalnego" ducha Rosji. Miejmy nadzieję, że najbliższe lata (lub dziesięciolecia) zakwestionują ten mroczny wizerunek wiecznej Rosji, kraju niewolników...*
*Leszek Kołakowski*
*(Polityka, nr 45)*

А нам, жывучы ў Польшчы, выпадае мець надзею, што салідарніцкая рэвалюцыя ў краіне не была, усё-такі, нешчаслівым выпадкам, і не давядзе да звароту да „натуральнага" руху Польшчы як „przedmurza chrześcijaństwa"... Гэтая інтэрлюдыя ўжо гучала...

* * *

*Białoruscy rabusie w łagowskim zamku. Wzięci bez jednego wystrzału.*
*(Express Wieczorny, nr 213/214)*

Беларусы, усё-такі, народ памяркоўны — у драку не лезуць...

* * *

*Dajcie mieszkanie, a wam będę rodziła dzieci.*
*(Polityka, nr 43)*

Яны, хутчэй за ўсё, паставяць Mutterheim, а не блёк з кватэрамі, шаноўная пані...

* * *

*Nader interesująco w naszej rzeczywistości rysuje się problem wierności głoszonym hasłom, poglądom i ideologiom. Ich ewolucja jest rzeczą naturalną. Gorzej jednak, gdy ewoluują one z dnia na dzień, w zależności od zmian koniunktury politycznej.*
*(Gazeta Polska, nr 18)*

Гэта не эвалюцыя, а прастытуцыя, панове. За гэта, пакуль што, не трэба плаціць падаткаў.

* * *

*Co ma pozostać po rządzie Suchockiej?*
*(Gazeta Polska, nr 20)*

Пасады для наступнага ўрада — так нам бачыцца з беларускай газеты.

* * *

*Zarząd miasta Białegostoku na swoim ostatnim posiedzeniu postanowił podwyższyć wynagrodzenia pracowników Urzędu Miejskiego. Od 1 września prezydent Lech Rutkowski zarabia 5,5-krotność średniej płacy w pięciu podstawowych działach przemysłu. Od 2 do 3,5 miliona więcej otrzymali naczelnicy wydziałów.*
*Jest to zgodne ze Statutem Miasta.*
*(Kurier Poranny, nr 232)*

Wolnoć Tomku w swoim domku. Мы выступаем за наданне для Беластока статусу вольнага горада. Wolne miasto Białystok — гэта нядрэнна гучыць!

* * *

*Niemłody mężczyzna obsługujący dworcową toaletę (w Suwałkach — red.) wygląda na „zmęczonego". Litwini mu nie przeszkadzają — zapewnia. Jest tylko jeden szkopuł — sądzi. Niechętnie płacą.*
*— Któryś stanie przy okienku, a reszta w tym czasie daje nogę. A dla mnie każde odlanie się to „tysiąc" od łebka. Wybaczyłbym im, że zabrali nam Wilno, ale z tym nie mogę się pogodzić!*
*(Gazeta Współczesna, nr 215)*

Zabrali Wilno i leją na Suwałki. Żmudzini, psia krew..!

* * *

***„Польскі клюб" у Шацілках (Сьветлагорск) ператвараўся ў мясцовую арганізацыю Саюза палякаў Беларусі. Старшынёю абраны Сяргей Гірыловіч — расеец па нацыянальнасці.***
***(Свабода, н-р 9—10)***

* * *

***КПБ хоча вярнуцца.***
***(Свабода, н-р 9—10)***

А ці яна ўвогуле кудысьці выяз- джала?

## З мінулага тыдня

У 74 гадавіну атрымання незалежнасці ва ўсёй краіне адбыліся адмысловыя ўрачыстасці. Цэнтральным пунктам святкаванняў Дня Незалежнасці была ўрачыстая змена ганаровай варты ля Магілы невядомага салдата ў Варшаве. Вянкі ўзлажылі прадстаўнікі вярхоўных дзяржаўных улад і замежныя дыпламаты. Прагрымеў салют з 24 артылерыйскіх залпаў. Ганаровую варту ля Магілы неслі салдаты, якія прадстаўлялі ўсе ваенныя акругі і ўсе віды ўзброеных сіл. У Дэпартаменце Міністэрства нацыянальнай абароны быў адкрыты бюст **Юзэфа Пілсудскага.**

**Жыхары Беластока** пасля набажэнства ў Кафедры сабраліся вакол помніка **Маршалу Юзэфу Пілсудскаму.** У прамовах ваявода **Станіслаў Пруціс,** былы эміграцыйны прэзідэнт Польшчы **Рышард Качароўскі** і прэзідэнт горада **Лех Руткоўскі** падкрэслілі значэнне Свята Незалежнасці і ролю Ю. Пілсудскага ў гісторыі польскага народа. Пры гуках ваеннага аркестра былі ўскладзены да помніка вянкі і кветкі. Кветкі былі прынаднесены таксама да помніка ксяндзу **Ежы Папялушку.** На беластоцкіх Ваенных могілках у Звярынцы была ўшанавана памяць салдат, загінуўшых у абароне Айчыны і адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар 26 жыхароў Беластока, расстраляных гітлераўскімі акупантамі 5 лістапада 1942 года. У Рыцарскай зале беластоцкага Музея войска адбылася цырымонія ўручэння ветэранам ордэнаў і медалёў, прысвоеных Прэзідэнтам РП.

**У канцы кастрычніка** - як паведамляе ГУС - **было зарэгістравана 2.477.300 беспрацоўных,** у тым ліку 1.341.200 жанчын. Зарэгістраваныя беспрацоўныя складаюць 13,5 працэнта ўсяго працаздольнага грамадства.

**Польшча з'яўляецца самым вялікім,** за выключэннем Расіі і Украіны, **гандлёвым партнёрам Беларусі.** Летась заняла яна першае месца ў экспарце Беларусі /20,8 працэнта яе абаротаў/ і другое /за Японіяй/ месца ў яе імпарце /21,8 прац./. Гандлёвы абарот Беларусі з Польшчай павысіўся ў мінулым годзе на 20 працэнтаў і дасягнуў агульную суму 151 мільёна долараў.

**Беларускія ўлады паінфармавалі,** што імі была выкрыта кантрабандысцкая сетка, якая займала перапраўкай расейскага урану ў Польшчу. Нядаўна на Кантрольна-прапускным пункце ў Брэсце мытнікі затрымалі расейца, які вёз з сабою 2,5 кг урану. У часе следства выявілася, што раней перавёз ён у Польшчу яшчэ 3 кг урану.

**Звыш 16 тысяч яўрэяў,** якія ў розныя перыяды выехалі ў Ізраіль і жывуць там сёння, звярнуліся з просьбай вярнуць ім беларускае грамадзянства. Сваё рашэнне матывуюць яны расчараваннем адносінамі ў Ізраілі, але большасць з іх не намерваецца адрачыся ад ізраільскага грамадзянства.

**Двухмільённая купюра з выявай Ігнацыя Яна Падарэўскага** выйшла з друку з памылкай. На яе адвароце замест надпісу "Sejm konstytucyjny" віднее "Sejm konstytucyjy". Нацыянальны польскі банк заявіў, што, нягледзячы на памылку, банкнот з'яўляецца важным плацежным сродкам і не будзе выведзены з абарачэння.

**Сямяцічы адзначалі 450 гадавіну** атрымання гарадскіх правоў. З гэтай нагоды адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная гісторыі горада, набажэнства, ускладанне вянкоў на магілах салдат з 1918 года, канцэрты народных калектываў і мастацкія выстаўкі.

**У Шчытах-Навадворах** /гм. Орля/ трыццацігадовы вясковец забіў пяцідзесяцігадовага суседа. Перад гэтым сустрэліся яны выпіць "бутэльку" і паспрачаліся. Спачатку старэйшы ўдарыў малодшага кулаком у твар, а той аддаў яму штахетай. У выніку пабоеў мужчына памёр. А ў вёсцы **Пілікі** /гм. Бельск-Падляшскі/ пабіліся між сабою два браты. Адзін з іх не жыве, а другі знаходзіцца ў бальніцы.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✓ С. Яновіч даходзіць да вываду, што якія бацькі, такія і дзеці.
- ✓ А. Чобат не пагаджаецца з Адамам Міхнікам.
- ✓ М. Панфілюк раздумоўвае, ці ў час вайны былі партызаны.
- ✓ П. Байко спаткаў у Белавежскай пушчы прыгожую кракавянку.



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### КАМСАМОЛ НЕ ТОЛЬКІ ЎЗРОСТ

Адбыўся 32-гі з'езд ЛКСМБ. Не такі шматлікі, як у гады сацыялістычнага застою /было выбрана 46 дэлегатаў, прысутнічала - 39/, ён усё ж такі дае падставы сцвярджаць, што маладзёжны камуністычны рух на Беларусі ніяк не адыдзе ў нябыт.

Гады падполля, аднак, не адвучылі камсамольцаў прымаць пампезныя дэкларацыі "Аб бягучым палітычным моманце" і "беларускай канцэпцыі" камсамола, а таксама лісліва прапаноўваць маскоўскім калегам правесці да 1 мая 1993 года 24-ы з'езд ВЛКСМ.

Цікава, што сярэдні ўзрост дабравольцаў-дэлегатаў - 22 гады, а 27 з іх выбраны на з'езд ЛКСМБ упершыню.

### ПАЛІТВУЧОБА Ў ГЕРМАНІІ

Хутка, ва ўсялякім выпадку, так плануе Міжнародная арганізацыя гуманітарнага супрацоўніцтва, у Менску з'явіцца цэнтр палітычнага навучання. Пакуль жа прадстаўнікі нованароджаных на Беларусі партый / АДНБ, БСДГ, ПНЗ, ХНЗ, ХДЗ/ праходзяць палітвучобу за мяжой. За дзесяць дзён, праведзеных у Гановеры, яны праслухалі курс лекцый па камунальнай палітыцы і сустрэліся з кіраўнікамі партыйных фракцый у парламенце зямлі Ніжняя Саксонія.

### ХРЫСТОС! БАЦЬКАЎШЧЫНА! КАСЦЁЛ!

Днямі ў Менску адбыўся ўстаноўчы сойм Задзіночання каталіцкай моладзі Беларусі.

Згодна з Часовым палажэннем аб дзейнасці ЗКМБ і заявай прынятай на сойме, Задзіночанне мае намер спрыяць пашырэнню хрысціянства ва ўсіх галінах жыцця, адраджэнню каталіцкага Касцёла Беларусі, а таксама дапамагаць моладзі ў пошуках ісціны.

ЗКМБ будзе дзейнічаць пад апекай беларускага святога Андрэя Баболі. Ёсць у новай арганізацыі і галоўны прынцып /своеасаблівы дэвіз/ - "Для Хрыста, Касцёла і Бацькаўшчыны!" Кіруючы орган ЗКМБ - Рада каардынатараў, якую ўзначальвае Эдвард Тарлецкі. Дарэчы, Задзіночанне збіраецца выдаваць і свой часопіс пад назвай "Рыцар Беззаганнай".

### АБАРОНЦЫ - ЗЛАЧЫНЦЫ

За дзевяць месяцаў бягучага года, у параўнанні з тым жа перыядам мінулага, колькасць здарэнняў і злачынстваў у войску ўзрасла на 68 працэнтаў. Па меры таго, як Беларускае войска становіцца ўсё больш шматлікім, дысцыпліна і парадак памяншаюцца.

З пачатку года ва Узбоеных Сілах рэспублікі загінула 29 чалавек, больш за 40 працэнтаў з іх здзейснілі самазабойствы, а пяцёра з самазабойцаў пакончылі з сабой на глебе псіхічных адхіленняў. За рабаўніцтва, здзекі над мірнымі жыхарамі ваенны трыбунал асудзіў звыш за 300 чалавек. Вось такая трывожная тэндэнцыя. А чаго іншага чакаць, пакуль парламентам не прыняты пакет законаў аб войску і нават таму, што адбываецца, адзіная - бязмежжа?

### КОСЯЦЬ "ЗАЙЦЫ" РУБЛІ

Урадавая камісія Рэспублікі Беларусь па каардынацыі пытанняў грашовага абарачэння прыняла рашэнне аб частковым пераходзе з 10 лістапада да выкарыстання разліковых білетаў Нацыянальнага банка ў наяўных плацяжах.

Каб абараніць спажывецкі рынак рэспублікі ад наплыву рублёў з суседніх незалежных дзяржаў, дзе яны выводзяцца з абарачэння, прапаноўваецца прадаваць за "зайчыкі" ўсе харчовыя тавары, уключаючы тытунёвыя і гарэлачныя вырабы. Можна не сумнявацца, што такі ж лёс напаткае і прамысловыя тавары, калі яны з вокамгненнай хуткасцю пачнуць знікаць з паліц магазінаў. Так што Беларусь паступова развітваецца з чужынцам-рублём, пакідаючы, праўда, для аматараў настальгіі "рублікі" і "траячкі".

### ПЛАТОНЫ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

Міжнародным чалавекам года назваў Кансультатыўны савет Міжнароднага біяграфічнага цэнтра ў Кембрыджы дацэнта кафедры паліталогіі Белдзяржуніверсітэта Вячаслава Шалькевіча.

Як ні дзіўна для часоў станаўлення паліталогіі на Беларусі, гэтай узнагароды вучоны ўдастоены за серыю работ па гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ЯН КАСТЭЦКІ НЕ ЗДАЕЦЦА

Яна Кастэцкага я ведаю дзесьці з паловы сямідзесятых гадоў. Пазнаёміліся мы падчас экскурсаводнага курса ў Белавежы. Ян працаваў тады ў Гміннай управе ў Нараўцы, але калі прыязджаў у Белавежу, заўсёды знаходзіў хвіліну, каб прывітаццa, пагаварыць. Мне падабалася яго ветлівасць, любоў да роднага.

Дзесьці ў палове васьмідзесятых гадоў я страціў кантакт з Янам, які пераехаў у Бельск-Падляшскі і там ажаніўся з медсястрой.

Нядаўна даведаўся я, што Ян меў цяжкі выпадак у маі 1986 г. Неўзабаве я завітаў у Бельск і ўбачыў Яна ў інвалідскай калясцы. Я проста не хацеў вачам паверыць! Ян, такі жыццярадасны, рухавы чалавек, з дзесяткамі ідэяў у галаве, прыкаваны да вазка! Ян расказаў мне, што выконваў на трапецыі гімнастычны зvіс і ў нейкі момант упаў на зямлю з вышыні. Пашкодзіў сабе шыйныя пазванкі. Ледзь выжыў, але астаўся 33-гадовым інвалідам. У многім цяпер ён здадзены на жонку і двух сыноў.

Але ўсё ж Ян астаўся па-ранейшаму жыццярадасны, спагадлівы. Не абмяжаваўся толькі да сценаў уласнага дома, але вядзе актыўнае жыццё. У мінулым годзе ездзіў на рэабілітацыйны лагер у Любліне, прымаў там удзел у... плавальным марафоне. Дыстанцыю 2,4 км пераплыў у 28,40 мін., атрымаў дыплом.

На чарговым лагеры ў Любліне прыйшла яму ў галаву думка згуртаваць інвалідаў з Бельска-Падляшскага, выцягнуць іх з дамоў, уключыць у грамадскае жыццё, перaадолець іх боязь перад светам здаровых людзей. Стварыць таварыства дапамог яму Тадэўш Лучай, які набыў вопыт у інвалідскіх пытаннях на місіі ў Швецыі.

15 лютага 1992 г. узнікла Таварыства дапамогі інвалідам „Шанц" у Бельску-Падляшскім (Stowarzyszenie Pomocy Osobom Niepełnosprawnym „Szansa"), а Ваяводскі суд у Беластоку зарэгістраваў яго 25 сакавіка г.г. Згуртавалася ў ім каля 30 чалавек. Старшынёй, зразумела, выбралі Яна Кастэцкага. Яго намеснікам стаў Тадэўш Лучай, сакратаром — Мар'я Гаўрылюк, а скарбнікам — Таццяна Красоўская.

Ян не любіць хваліцца. Яго жонка Валя і прыяцель Ежы Шунэйка падказалі мне, што на працягу некалькіх месяцаў удалося яму разварушыць бельскіх інвалідаў. Яны пачалі паказвацца ў горадзе, перастаюць саромецца свайго калецтва. Былі ўжо наладжаны для іх два вогнішчы — у лесе ў Галадах і Пiліках, рэабілітацыйны бівак у Нараўцы, экскурсія Надбужанскім шляхам. Удалося нават ажаніць двух членаў Таварыства (яны пазнаёміліся на біваку ў Нараўцы). Аднаму дапамаглі паставіць тэлефон. У мясцовым евангелічным касцёле адбылася сустрэча з прадстаўнікамі таго ж касцёла з ЗША, Вялікабрытаніі, Нямеччыны. Варта ўспомніць, што ў Таварыстве знаходзяцца людзі розных веравызнанняў — каталікі, праваслаўныя, евангелікі, а таксама атэісты. Праўленне „Шанцу" сустрэлася з уладамі горада.

Калі ў размове кранулі мы справу інвалідскіх калясак, разгаварыўся і Ян. Аказваецца, што з імі вялікія праблемы. Раней інвалід атрымоўваў адзін вазок на 5 гадоў, але такое ўжо скончылася. Звычайны, просты вазок каштуе цяпер 21 мільён злотых, а адкуль такую суму ўзяць інваліду?

Шмат праблемаў стварае інвалідам руханне па горадзе. Дзякуючы намаганням Таварыства пачынае вырашацца справа будовы зручных для інвалідаў вулічных пераходаў, пад'ездаў у крамы, аптэкі. Але жыллёвы кааператыў непрыхільна ставіцца да патрэб гэтай часткі жыхароў горада. Наогул Таварыства не знайшло падтрымкі ў солтыса Пілікаў, калі папрасіла яго дапамагчы дакончыць дарогу да аднаго з членаў „Шанцу". Таварыства хоча арганізаваць для інвалідаў камп'ютэрны курс.

Члены бельскага „Шанцу" збіраюцца на сходах у кожную апошнюю сераду месяца, а 15 гадзіне, у памяшканні кааператыва інвалідаў „Будучыня".

— Да нас можа далучыцца кожны інвалід з Бельска ці з ваколіц, нават тых далейшых, — гаворыць Ян Кастэцкі. — Не ставім ніякіх абмежаванняў. Наймалодшы наш член, Андрэйка Красуцкі, яму 11 год, вучыцца ў нармальный школе. Ахвотна вітаем у нашай арганізацыі спонсараў. Вядома ж, грошай на нашы патрэбы не маем многа. Кожны член месячна плаціць 10 тысяч злотых складчыны. Калі хто з чытачоў „Нівы" захоча нам памагчы, будзем вельмі ўдзячны. Падаю наш рахунак: BGŻ w Bielsku Podlaskim, 805113—1430—271.

Вось такі мой сябра, Ян Кастэцкі! Не здаўся, але яшчэ рашыўся памагаць іншым. Мне аднойчы стала сорамна, калі я, здаровы, пачаў перад ім наракаць на свой лёс, а ён стаў мяне суцяшаць. Як жа часта мы не даражым тым, што маем!

**ПЁТР БАЙКО**
*(ганарар на Таварыства „Шанц")*



*Ян Кастэцкі ля свайго дома ў Бельску-Падляшскім.*

# ПОЛЬСКІ СПІРТ...

☛ *Працяг са стар. 1*

кан'юнктуры і... звальненняў з работы, якія павінны былі атрымаць у канцы кастрычніка.

Разам з кіраўніком Аркадзем Свентахоўскім працуе тут яшчэ чатырох рабочых. Але і ў лепшы час працаўнікоў было мала больш - усяго 6 чалавек. За дзень прадукавалі яны 1000 літраў спірту. Неачышчанага, прамысловага, бо толькі такі ў Пакaневе рабілі.

Асноўнай сыравінай для прадукцыі спірту з'яўляюцца жыта або бульба. Хаця можна тут перарабіць практычна ўсё, што расце, пры чым, самай паганай якасці: змёрзлую бульбу, тухлае жыта, гнілую садавіну. Раз нават выкарысталі экзатычную паўднёваамерыканскую тапіёку. Калісьці, каб здаць збожжа ў гарэльню, гаспадар павінен быў мець спецыяльнае пасведчанне, што непрыгоднае яно для іншых мэт. У сярэднім з аднаго цэнтнера жыта атрымліваецца каля 30 літраў неачышчанага спірту, з цэнтнера бульбы - 9 літраў.

**За літр неачышчанага спірту гарэльні плацілі 8 тысяч злотых. Каб яго рэктыфікаваць - зрабіць здатным для спажыцця, трэба другія 8 тысяч. Цана ў краме — звыш 200 тысяч - гэта вынік розных налогаў і не мае яна нічога супольнага з коштамі прадукцыі.**

У Пакaневе раней маглі ўсяго спадзявацца, але каб гарэльня стала нерэнтабельнай - такое нікому нават і на думку не прыйшло. Цэлы ПГР мог развальвацца, гэта так, але каб выраб спірту перастаў аплачвацца? Не раз жа гарэльня фінансава дапамагала бяднейшым гаспадаркам бельскага ПГРа.

Аркадзь Свентахоўскі, які тут кіраўніком ужо 16 гадоў, пачаставаўшы мяне каваю, у гутарцы намякае на неабходнасць прыватызацыі завода. Але для гэтага трэба, перш за ўсё, кагосьці з грашыма /спачатку былі нават мяне палічылі за такога, але хутка расчараваліся, пазнаўшы праўду/. І па-другое: цана на спірт /фактычная, не рознічная/ павінна павысіцца.

Сёння польскую спіртавую прамысловасць залівае рака таннага імпартнага тавару. Пры чым, тое, што мы бачым у турыстаў з усходу, гэта толькі невялічкая частка працэнта ўсяго прытоку.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

P.S. Развітваючыся, абяцаю кіраўніку, што прыеду сюды яшчэ, калі адноўляць прадукцыю. Пабачу, ці краёвы спірт камяком не стане ў горле.

✦

# ШТО НОВАГА Ў МІХАЛОВЕ

Міхалова прыгажэе, мяняе свой выгляд. У парку ўжо парабілі жвірыстыя дарожкі, а навокал яго пракладаюць тратуары. Вуліцу Сянкевіча, пры якой знаходзяцца ліцэй і пачатковая школа, дакладна высфальтавалі. Магчыма, што ў такі спосаб ушанавалі памяць лаўрэата Нобелеўскай прэміі. У канцы гэтай жа вуліцы, недалёка могілак, будуюць новую школу.

Інвестыцыі вядуцца таксама і на могілках. Цягнуць туды вадаправод. Шмат людзей, праўду кажучы, не разумее, на што і каму ён патрэбны, бо пэўна не нябожчыкам! Хаця лета было вельмі сухое, вада ў студні на могілках ніколі не высыхала. Відаць, нашым продкам не надта хацелася піць. Жывых найбольш ірытуе пытанне, хто за гэта заплаціць. Нехта прыдумаў такую ці іншую работу, але адкуль узяць грошы, каб за гэта ўсё заплаціць, калі ўжо на хлеб людзям не хапае?

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

## ФОНД ПОЛЬСКА-ЧЭШСКА-СЛАВАЦКАЙ САЛІДАРНАСЦІ

***Па просьбе старшыні Праграмнай рады Фонду польска-чэшска-славацкай салідарнасці спадарыні Багумілы Бэрдыхоўскай змяшчаем праграму курсаў, арганізаваных гэтай установай для дэмакратычных плыняў з краін Прыбалтыкі, Беларусі, Украіны і Расіі.***

## PROGRAM TECHNIKA WOLNEGO SŁOWA

Europa Wschodnia została wyzwolona od dominacji systemu politycznego, którego charakterystyczną cechą była ścisła kontrola państwa nad myślą i słowem. Dokonywujący się obecnie proces uwalniania się narodów Europy Wschodniej spod tej długotrwalej presji jest bardzo trudny, rodzi - obok wielkiej szansy - poważne zagrożenia. Reakcja na wcześniejszą "imperialną" zależność wzmacnia zaściankowe nacjonalizmy, co powoduje, że wyzwalające się myśl i słowo dalekie są od demokratycznych oczekiwań.

Program TECHNIKA WOLNEGO SŁOWA ma objąć w najmłodszych europejskich demokracjach te środowiska społeczne, które we współpracy międzynarodowej gotowe są do pokonywania zahamowań, barier, wrogości między narodami.

Program ma służyć takim ruchom lub organizacjom, dla których wolność słowa oznacza nie tylko wolność polityczną, ale przede wszystkim szanse porozumiewania się z tymi, od których oddzielają dziś granice państwowe lub ich doraźne polityczne interesy. Technika, ktorej uczyć się mają uczestnicy, traktowana jest jako bardzo przydatne do tego narzędzie.

W dalekim planie, program ma służyć pojednaniu i współdziałaniu między narodami Europy Wschodniej.

W ramach programu - realizowanego w Warszawie /koordynacja: Fundacja Solidarności Polsko-Czesko-Słowackiej; szkolenie: Fundacja KARTA; finansowanie: National Endowment for Democracy, Fundacja Batorego, East - West Education Development Foundation/ - przeszkolonych zostanie 20 grup z: Rosji, Ukrainy, Białorusi, Litwy, Łotwy i Estonii. Dwutygodniowe szkolenie każdej z nich wiązać się będzie przede wszystkim z opanowaniem komputerowej techniki prac edytorskich. Wrócą do swoich krajów zdolne do podjęcia samodzielnych działań wydawniczych, zaopatrzone w niezbędny do tego sprzęt komputerowy.

Wybór zgłoszonych organizacji - dokonywany przez Radę Programu - uwzględniać będzie główny cel całego przedsięwzięcia, a także wstępne przygotowanie danego środowiska - koncepcyjne i organizacyjne - do włączenia się do takiego obiegu informacji i myśli, który może być ułatwiony dzięki zastosowanej technice.

Propozycje organizacji, które warto zaprosić do Warszawy lub zgłoszenia współpracy w ramach programu - należy przekazać jego kierownikowi, Katarzynie Krajewskiej, Fundacja Solidarności Polsko-Czesko-Słowackiej, 00-586 Warszawa, ulica Flory 9 V p., telefon/fax 49 49 78.

Rada Programu:

Bogumiła Berdychowska - Przewodnicząca Rady /dyr. Biura ds. Mniejszości Narodowych/,

Bogdan Borusewicz /poseł na Sejm/,

Aleksander Dąbrowski /dyr. Centrum Komputerowego Archiwum Wschodniego/,

Zbigniew Gluza /prezes Ośrodka KARTA/,

Zbigniew Janas /poseł na Sejm/,

Jarosław Szostakowski /Prezes Zarządu Fundacji Solidarności Posko-Czesko-Słowackiej/.

Proponowany cykl szkoleń rozpoczyna się w styczniu 1993 roku.






## УЦЯЧЫ АД СВАБОДЫ

Z przyjemnością, satysfakcją i uznaniem przeczytałem /b. uważnie/ "Уцячы ад свабоды" z nr 43. To **mądry** tekst, tym samym nie znajdzie uznania **większości**. W etologii zwierząt /zachowania się/ jest zjawisko **wolność jako stres**, a więc jest to naturalne.

Wyzwalani więźniowie obozów koncentracyjnych rozbiegali się w pierwszej chwili, po czym... wracali /na szczęście na krótko i z własnej **woli**/.

"... lepsze masz w klatce, niż w polu, wygody!". Tak, to jest natura rzeczy... Przeczytam to znajomym.

**Prof. Jerzy L. Olszewski, Kielce**

## БАЛАХОЎШЧЫНА

Алег Латыпонак прадставіў на старонках „Нівы" сваю аповесць пра цікавага і загадкавага чалавека, якім быў Балаховіч. Мусіў ён многа настарацца, каб зачарпнуць аднекуль гістарычнай вартасці весткі і сабраць іх у цэлую кнігу. Хаця ў „Ніве" друкаваліся толькі яе ўрыўкі, веру, што яна выйдзе друкам асобна.

Напэўна А. Латыпонак многа вестак пра Балаховіча і яго армію чэрпаў ад старэйшых людзей, якія помняць падзеі грамадзянскай вайны ў Расеі і міжваенны час у Польшчы. Сярод беларусаў на Беласточчыне існуе перакананне, што каб не Балаховіч і яго армія, дык палякі не мелі б у 1920 годзе „цуду над Віслай". Як хутка бальшавікі гналі палякаў аж пад самую Варшаву, так, дзякуючы Балаховічу, што ён перайшоў на польскі бок, яшчэ хутчэй уцякалі назад.

Тэкст Латыпонка не пацвярджае гэтага. Бо калі ўжо бальшавікі ўцякалі, то Балаховіч знаходзіўся тады недзе ў Латвіі, а толькі пасля пачаў партызаніць. Але як бы там не было, напэўна ў нечым палякам дапамог, калі тыя пазней так горача прымалі ў сябе балахоўцаў. Польскі ўрад даваў ім, як нікому другому, прывілеі і карысці. Гавораць, што гэтых балахоўцаў была ў нас процьма. А якія гэта былі людзі? Розныя, але пераважна нягоднікі. У міжваенны час сярод балахоўцаў не сустракалася беларусаў, а гэта таму, што беларусы — мірны народ. Балахоўцамі пераважна былі рускія, людзі розных характараў. Большасць з іх гэта быў усялякі зброд: зладзюжкі, п'яніцы, крыміналісты. Былі таксама і парадачныя людзі, але сярод рускіх было іх мала.

Калісьці мой бацька расказваў, як пры санацыі ён і яшчэ адзін дзядзька, якога звалі Васілюшкам, трачавалі клёцы ў нейкай фірме, дзе касірам быў балаховец-рускі. Калі яны наймаліся на работу, то гэты касір запытаў іх, як яны хочуць атрымліваць зарплату: ці кожны дзень, ці пры канцы работы — за месяц. Мой бацька адказаў, што кожны дзень, але той другі, Васілюшка, чалавек вельмі скупы, запярэчыў і сказаў: „Пане скарбнік, я хочу одын раз достаты вэлікі грошы за свою роботу тоды, колі вона закончыцця за місяць". Балаховец, пачуўшы гэта, аж падскочыў з радасці і сказаў: „О, это мудрая голова. И так будет!". Цэлы месяц бацька з Васілюшкам трачавалі калодкі, а калі закончылі работу, касір уцёк невядома куды і прагуляў іх грошы. Для такіх балахоўцаў, а была іх большасць, ніякая ідэя не існавала. Кіраваліся яны прынцыпам жывата і то чужым коштам і абманам.

Сярод балахоўцаў было шмат афіцэраў, але гэта былі іншыя людзі. Многія з іх сталі служыць святарамі, бо варта ведаць, што пры цары кожны афіцэр мусіў знаць царкоўную службу, так што мог быць свяшчэннікам. Гэта не так, як пры камуне, дзе афіцэраў вучылі адной пустаце — марксізму-ленінізму.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

☞ *Працяг на стар. 8*

☛ *Працяг са стар. 1*

развіцці праходзіць акрэсленыя фазы. Пасля барацьбы супраць папярэдніх структураў улады абавязкова пачынаецца барацьба за ўладу паміж переможцамі.

У пачатковы перыяд рэвалюцыі апазіцыю яднае агульная ідэалогія, якая абмежаваная лозунгам „Свабода замест дыктатуры" — калі чалавек імкнецца да свабоды для сябе, свайго народа альбо свайго руху ці партыі, што задавальняюць лозунгі ўсеагульнай свабоды, талерантнасці да іншадумцаў, гарантыі правоў меншасці. Толькі пазней у нутры самой апазіцыі пачынаецца дыскусія: пачынаюць фармавацца розныя ідэалагічныя плыні.

Камунізм заўжды прэтэндаваў на ролю універсальнай дактрыны, таму пасля яго развалу застаецца пустэча. У гэтай пустэчы паступова з'яўляюцца прывіды мінулых эпохаў: ксенафобія, шавінізм, папулізм, нецярплівасць. Слова „нацыяналізм", якім звычайна тлумачаць гэтыя працэсы, надзвычай размытае, выклікае самыя розныя асацыяцыі. Мне здаецца, што для дабра справы патрэбна ўдакладніць гэты тэрмін.

**Імкненне да адраджэння нацыянальных каштоўнасцяў, абарона нацыянальнай культуры, змаганне за нацыянальны суверэнітэт — усё гэта не ёсць нацыяналізм.**

**Нацыяналізм — гэта не змаганне за свае нацыянальныя правы, а зняваа чужога права на захаванне нацыянальнай і чалавечай годнасці. Нацыяналізм — гэта такое разуменне нашага свету, адпаведна якому народы з'яўляюцца канкурэнтамі ў барацьбе за выжыванне.**

Нацыяналізм — гэта апошняя фаза камунізму. Гэта апошняя спроба састарэлай ідэалогіі знайсці ў грамадстве глебу для дыктатуры. Кім Ір Сэн, Фідэль Кастра, Мілошэвіч ёсць яркім прыкладам гэтага. Але адначасова нацыяналізм стаіць у апазіцыі да камунізму. Камунізм плюе на нацыянальную годнасць народаў, разбурае нацыянальныя традыцыі, знішчае нацыянальную незалежнасць. У гэтым выпадку нацыяналізм ёсць скажоная форма нацыянальнай самаабароны, і ступень гэтага скажэння тым большая, чым мацнейшым было нацыянальнае падаўленне. Нацыянальнае пачуццё несумяшчальнае з імкненнем пазбегнуць адказнасці за свае і чужыя ўчынкі. Нацыянальная годнасць азначае не толькі права ганарыцца сваім народам, але і абавязак дзяліць таксама ганьбу свайго народа. Адно звязанае з другім. Калі немец ганарыцца творамі Гётэ, Гейнэ ці Томаса Мана, хоць і не ён гэта напісаў, то адначасова немец павінен адчуваць і сваю віну за злачынствы Гітлера, Гімлера, Гебельса – хоць асабіста ён у гэтым не ўдзельнічаў. Гэта і ёсць прынцып адказнасці.

Адно звязана з другім, і таму нацыяналізм — гэта спосаб пазбавіцца ад усялякай адказнасці за мінулае. Заўсёды вінаватыя „чужыя" — гэта перакананне любога нацыяналіста. Нацыяналізм — гэта спосаб стварыць такі вобраз свайго народа, у якім не было б нават месца „іншаземцам". Нацыяналістычнае мысленне робіць магчымым праследаванне касмапалітызму ў культуры альбо абмежаванне ў правах грамадзян яўрэйскага паходжання. Нацыяналізм бярэ на ўзбраенне лозунгі накшталт „Расея для расейцаў!", „Польшча для палякаў!", „Балгарыя для балгараў!" Нарэшце, нацыяналістычная дактрына прамікам вядзе да пагромаў, пра што сведчыць кроў забітых у румынскай Трансільваніі венграў. За гэтымі нацыянальнымі эмоцыямі паўстае пытанне: якім шляхам пойдзе рэвалюцыя ў той ці іншай краіне Усходняй Еўропы?

### ПАМІЖ ДЭМАКРАТЫЯЙ І НАЦЫЯНАЛІЗМАМ

Адны групы імкнуцца „вярнуцца да Еўропы", а другія — „вярнуцца да каранёў". Адно другому неабавязкова адразу супярэчыць. Аднак гэтыя мэты ўсё больш супрацьстаяць адна другой з цягам развіцця канфлікту. У слабаразвітым грамадстве, дзе людзі пакутуюць комплексам няпоўнацэннасці з прычыны адсталасці краю, звычайна ёсць дзве партыі інтарэсаў. Адна імкнецца дагнаць багатую ліберальную Еўропу, другая хоча выпрацаваць свой уласны, часцей за ўсё супрацьлеглы шлях. Нацыяналізм пры гэтым робіцца ідэалагічным падмуркам антыеўрапейскай партыі.

**Расейскі нацыяналізм праяўляецца ў імперскіх пасяганнях, але можа праяўляцца таксама як ізаляцыянізм. Такія ізаляцыяністы могуць нават пагадзіцца з незалежнасцю, напрыклад, Літвы, але на такіх умовах, каб усе „инородцы" пакінулі Расею.**

**Расейскаму нацыяналісту патрэбная „чыстая" Расея: без літоўцаў, яўрэяў, армянаў, узбекаў з аднаго боку, без касмапалітаў і масонаў — з другога. Расейскі нацыяналіст не надта ведае, хто такія масоны, але перакананы, што гэта нешта такое, што звязанае з Еўропай і яўрэямі — а ў Еўропе ён бачыць галоўнага ворага.**

Цяпер часта гавораць, што ў Расеі зноў разгараецца спрэчка паміж заходнікамі і славянафіламі. Не веру. У Расеі я бачу спрэчку дэмакратаў, духоўным айцом якіх быў Андрэй Сахараў, з чорнасоценцамі. Па сутнасці спрэчка банальная: адны лічаць, што камунізм разбурыў элементарныя правы чалавека, а другія, што гэта чужая, нямецкая, яўрэйска-масонская, касмапалітычная тэорыя.

У кожным посткамуністычным краі ёсць свая чорная сотня, чый светапогляд такі ж просты і ясны, як той, які навязалі грамадству камуністычныя праваднікі. Менавіта таму гэты светапогляд так лёгка пераконвае людзей, якія дажылі да канца „непахіснага" камунізму.

**У Польшчы няма палітычнага канфлікту паміж правымі і левымі. Ды і тэрміны гэтыя страцілі свой сэнс. У Польшчы ідзе барацьба прыхільнікаў адкрытага грамадства з прыхільнікамі ідэі „каталіцкай дзяржавы польскага народа", дзе няма месца для „не-палякаў". Для прыхільнікаў першай ідэі народ — гэта культурная супольнасць, для іх супрацьўнікаў — гэта супольнасць па крыві.**

Мы часта ўяўляем сабе канец камунізму як адно суцэльнае свята. Цяпер жа мы ўбачылі, як ад подыху свабоды прасынаюцца і выпаўзаюць з падполля спарахнелыя пачвары. Мы верым, што нацыянальны экстрэмізм ёсць перажыткам мінулага, што ён страціў папулярнасць. Мы верым, што развіццё нашых краін пойдзе дэмакратычным шляхам...

А што, калі мы памыляемся?

**АДАМ МІХНІК**

# БЕСПРАЦОЎЕ

У пачатку лістапада сродкі масавай інфармацыі ў Польшчы падалі вестку, што ў 1993 г. лік беспрацоўных павысіцца да 3,2 мільёна. Абазначае гэта, што новая - 600-тысячная армія людзей будзе шукаць спосабу, каб неяк перажыць. Беспрацоўе заўсёды выклікала адмоўныя паслядоўнасці. Найчасцей была гэта дэмаралізацыя грамадства і яго палітычны радыкалізм. Людзі, якія маюць час і пазбаўлены легальных спосабаў зарабіць грошы, хапаюцца метадаў, якія разыходзяцца з правам. Гэта найчасцей метады, якія не патрабуюць вялікага высілку і хутка даюць прыбытак. Зразумела не ўсе становяцца дэгенератамі, і некаторыя рашаюцца збіраць бутэлькі і ўсякае іншае смецце, каб пракарміць сям'ю, заплаціць за кватэру і палагодзіць усе іншыя неабходныя выдаткі. Дапамога, якую атрымоўваюць беспрацоўныя ад дзяржавы, вельмі малая ў параўнанні з цэнамі, а ўсё паказвае на тое, што ад 1 снежня 1992 г. 550 тысяч людзей увогуле яе мець не будзе. Агромны працэнт грамадства знойдзецца ў безнадзейнай сітуацыі. Пойдуць гэтыя людзі за кожным, хто паабяцае працу, хлеб і простыя вырашэнні іх праблемаў.

Ці гэты кашмар, якім ёсць беспрацоўе, з'яўляецца неабходнасцю ў рыначнай сістэме? Заўсёды гэтая эканамічная з'ява абмяжоўвалася палітычнымі рашэннямі. У 1929 г. крызіс, які нарадзіўся ў Амерыцы, праз некалькі месяцаў паралізаваў гаспадарку ў цэлым свеце. Крызіс гэты не закрануў толькі дзяржаў з таталітарнымі сістэмамі кіравання.

У Італіі, Савецкім Саюзе, Японіі паказальнікі гаспадарчага развіцця нават раслі ў той час, калі ў дэмакратычных дзяржавах прадукцыя падала на 50 працэнтаў, а беспрацоўным быў кожны трэці або нават і кожны другі немецкі, амерыканскі ці вялікабрытанскі рабочы. У Амерыцы нарадзіўся сімптом Ал Капонэ, у Нямеччыне сфрустраваныя людзі дапусцілі да ўлады Гітлера, які абяцаў у надоўгім часе ліквідаваць беспрацоўе, галечу і прыніжэнне. Гітлер слова стрымаў. Складаючы заказы канцэрнам на прадукцыю ўзбраення, скрануў ён з месца цэлы гаспадарчы механізм. Фабрыка, якая пачынала рабіць танкі, патрабавала сталь, металургічнаму заводу трэба было зноў купляць вугаль і жалезную руду, і г.д. У кожным месцы патрэбны былі людзі. Фашысты неўзабаве пераканаліся, што чалавек, які зарабляе вельмі мала, але ведае, што праз дзень, тыдзень, месяц будзе мець працу і пэўную будучыню, адчувае сябе зусім інакш, чым патанаючы ў безнадзейнасці беспрацоўны.

Другі метад выхаду з крызісу трыццатых гадоў рэалізаваў прэзідэнт ЗША Франклін Дэлана Рузвельт. Пусціў ён у ход капітал на т. зв. "публічныя работы".

Дзяржаўны бюджэт пачынаў інвеставаць у пабудову дарог, мастоў, каналаў. Перш за ўсё пайшлі заказы для прыватных прадпрыемстваў на сродкі транспарту і машыны, неабходныя, каб рэалізаваць гэтыя інвестыцыі. Мільёны людзей атрымалі працу не толькі пры пабудове дарог, але і там, дзе прадукавалі тачкі, грузавікі, лапаты, кіркі. Гэтыя людзі за сваю працу атрымалі грошы і пачалі ісці ў крамы купляць тавары - вопратку, абутак, мэблю. Такім чынам хтосьці, хто меў запас гэтых тавараў, пазбываўся яго і мог пачынаць павялічваць прадукцыю і даваць людзям працу.

Дзесяткі гадоў вытворчасць так на ўсходзе, як і на захадзе, у вялікай ступені звязана была са спаборніцтвам ў галіне ваеннага ўзбраення. Гэта быў ненатуральны фактар, які дынамізаваў прадукцыю і даваў людзям працу. Ён не толькі быў антыгуманны, але на будучыню і бессэнсоўны. Куды лягчэй было б сёння даехаць з Беластока ў Варшаву, Ольштын, Гарадок, калі б на працягу апошніх гадоў грошы замест на прадукцыю танкаў і гарматаў ішлі на пабудову дарог.

Сёння ў Польшчы налічваецца 2,5 мільёна беспрацоўных, хаця працы ёсць для 5 мільёнаў. Цэлыя кварталы горада Беластока /і не толькі/ не маюць ніводнай сапраўднай вуліцы ці тратуара. Вясной і восенню праехаць туды можна толькі трактарам або грузавіком. Ёсць і вёскі, да якіх цяжка дабрацца нават летам. Няма кватэр, а будаўнікі не маюць працы. Жыхары гарадоў не маюць за што купіць прадукты харчавання, а сяляне не ведаюць, што зрабіць са сваёй прадукцыяй.

Парадокс заключаецца і ў тым, што некалькі мільёнаў людзей бярэ грошы за тое, што нічога не робіць, тады, калі іх праца ёсць патрэбная на кожным кроку. Хто зарганізуе гэту працу і размеркуе яе? Пакуль што, сярод нашых палітыкаў, занятых абортамі, дэкамунізацыяй ці хрысціянізацыяй, не відаць новага Рузвельта.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**



# ГЕНЕЗІС АРХІТЭКТУРЫ ДРАЎЛЯНЫХ ЦЭРКВАЎ

Дыскусія аб царкоўнай архітэктуры, якая пачалася пасля пажару царквы на Сятой Гары Грабарцы, паказала, як мала мы ведаем аб паходжанні і развіцці драўлянай царкоўнай архітэктуры на ўсходнеславянскіх землях, а асабліва на Беласточчыне.

Прапаную крыху асноўнай інфармацыі аб той форме архітэктуры, якую мела (і будзе мець) царква на Грабарцы і шматлікія драўляныя цэркаўкі, якія будаваліся ў нас яшчэ ў пачатку XIX ст. Як пішуць гісторыкі архітэктуры, першапачатковыя драўляныя цэрквы Кіеўскай Русі мелі канструкцыю г. зв. „клецевую". Асноўнай часткай такой царквы была „клець", звычайная чацверыковая, аднапрасторная хата, зрубленая з неапрацаваных бярвенняў з двухсхільным дахам на „свалоках" накрытым „драніцай" — уручную рубленымі дошкамі. Такая адзіночная клець, аздобленая крыжам ці „верхам", невялікім купалком, магла ўжо быць найпрасцейшай цэркаўкай ці капліцай. Дастаўленая ад усходу другая, меншая клець, з'яўлялася алтарнай часткай (прэзбітэрый), а трэцяя — вузейшая за неф — клець ад захаду ўтварала прытвор, па-народнаму названы бабінцам. Такім чынам ужо ў старарускі перыяд стварыўся тыповы план драўлянага трохзрубавага храма падоўжна-восевай кампазіцыі, зложанага з трох частак: вузейшага бабінца, шырэйшага нефа і вузейшай алтарнай часткі. Карані драўлянай царкоўнай архітэктуры — тутэйшыя, народныя, у адрозненні ад мураваных цэркваў Кіеўскай Русі, якіх форма працягвае візантыйскі стыль. Трэба звярнуць увагу на тое, што трохзрубавы план характэрны драўляным цэрквам, і як правіла, не выступае ён у драўляных касцёлах, якія двухзрубавыя, без бабінца, зложаныя толькі з нефа і прэзбітэрыя (алтарнай часткі), да якіх пасля перад нефам дастаўлялі вежу-званіцу каркаснай (шкілетавай) канструкцыі. Клецевыя цэрквы ў найбольш архаічнай форме захаваліся ў паўночнай Расіі ў Ноўгарадскай зямлі.




Прыкладам можа быць Успенская царква з вёскі Нікуліна з 1599 г. (здымак 1). На здымку відаць невядомую ўжо ў нас канструкцыю даху на „свалоках" (перад вайною спатыкалася яна яшчэ на Палессі). Шчыт зрублены з гарызантальных бярвенняў, як і сцены, і звязаны са зрубам „свалокамі" з такіх самых бярвенняў, на якіх клалі драніцы перакрыцця. Пры такой канструкцыі царква заўсёды мусіла мець шчыты і двухсхільныя дахі. Гэта важная заўвага, якая дазваляе адкінуць чарговы стэрэатып, як павінна выглядаць „сапраўдная царква". Аказваецца, што найстарэйшыя драўляныя цэрквы мелі двухсхільныя дахі, такая была іх канструкцыя. Дах чатырохсхільны, „шатровы", добра нам вядомы з цэркваў XIX




ст., мог паявіцца тады, калі ў будаўніцтве цэркваў пачалі карыстацца пераняатай з захаду каркаснай (шкілетавай) канструкцыяй. У Расіі гэта наступіла толькі ў II палове XVII ст., калі пасля паўстання Хмяльніцкага далучылі да яе Кіеў і задняпроўскую Украіну, а расійскія войскі, якія некалькі гадоў акупавалі большую частку Вялікага княства Літоўскага ўключна з Вільняй, вывезлі на ўсход шмат рамеснікаў з Беларусі і Літвы. А шырокае распаўсюджанне заходнееўрапейскай будаўнічай тэхнікі ў Расіі гэта ўжо XVIII ст., пасля Пятра І.

У XVII ст. Маскоўскі патрыярхат увёў канон, які загадваў будаваць усе цэрквы ў цэнтральнай кампазіцыі, у якой дагэтуль будаваліся толькі мураваныя цэрквы візантыйска-рускага стылю. Спыніла гэта ў Расіі развіццё традыцыйных трохзрубавых драўляных цэркваў падоўжна-восевай кампазіцыі. Аднак іх будавалі яшчэ і ў XVIII ст. і то ў Цэнтральнай Расіі, на Уладзімірска-Суздальскай Русі, непадалёк Масквы. Здымак 2 прадстаўляе Нікольскую царкву з сяла Глотава з 1766 г., якая знаходзіцца цяпер ў скансэне ў Суздалі. У уладзімірска-суздальскіх цэрквах звяртаюць увагу вельмі стромкія,




двухсхільныя дахі, якія напамінаюць гатычныя дахі ці архітэктуру польскіх гураляў. Невялікая розніца вышыні між бабінцам а нефам. Алтарная частка (прэзбітэрый) закончана трохграннай апсідай, як у гатычных касцёлах. Увогуле цэрквы гэтай групы на першы погляд напамінаюць драўляныя касцёлы польскага Падгалля, з двумя аднак розніцамі — маюць бабінец, а не маюць званіцы. Але аб ніякім пераймання ў гэтым выпадку гаварыць нельга. Адкуль гэтае падабенства? Што ж, тут і тут архітэктура народная, гэты самы будаўнічы матэрыял і паўночны халодны клімат. І ўсё.

Падпарадкаванне ў XVII ст. драўлянай царкоўнай архітэктуры ў Расіі ідэалагічнаму канону цэнтральнасці зусім перамяніла яе форму. Драўляныя цэрквы пачалі больш ці менш удала паўтараць формы мураваных цэркваў візантыйска-рускага стылю, якія ў гэты час таксама пераменіліся, бо пры іх пачалі будаваць вежы-званіцы. І перамене стылю памагло распаўсюджанне заходнееўрапейскага цяслярства, якое карысталася бэлькай абрэзанай да канту і каркаснай канструкцыяй, што дазваляла на большую свабоду формы. Над цэрквамі паявіліся „шатровыя" дахі, чатырохсхільныя ці васьмікутныя ў разрэзе. На працягу XVII—XVIII ст. развіўся ў царкоўнай архітэктуры Расіі новы стыль, які да нас прыйшоў у II пал. XIX ст. (пасля класіцызма), згодна з тагачаснай модай на „нацыянальныя стылі" названы „стылем расійскім". Традыцыйныя драўляныя трохзрубавыя цэрквы народнага паходжання адышлі ў забыццё. У нас іх ставілі яшчэ ў І палове XIX ст. у тыповай для гэтага рэгіёна форме, пад адным супольным дахам. Ёсць іх яшчэ шмат ( напрыклад, могільнікавая царква ў Новай Волі — здымак 3). Цяпер польскія „вучоныя" пераконваюць нас, што гэта „касцельная архітэктура". Пад Масквою таксама касцельная? Не ведаем мы зусім сваёй традыцыі!

**В. АЛЕКСЯЮК**

## ЯШЧЭ АДНА СМЕРЦЬ "НАШАГА ХЛОПЦА"

У маладыя гады памёр у Лодзі - даволі вядомы там - мастак Ян Іванюк, які быў родам з Прыбелавежжа. У сувязі з тым мой знаёмы адтуль напісаў:

- Яшчэ адзін "наш хлопец", які не хацеў быць нашым. Не раз тлумачыў палякам /зусім не распытваны імі/, што ягонае прозвішча не ад Івана, а ад івы паходзіць.

Пахаваны на праваслаўным могільніку ў Лодзі. Паніхіду адслужыў епіскап Сымон /школьны сябар Яна/. Здзівіла мяне тое, што да канца застаўся ён праваслаўным...

**/СЯ/**

## НЯЛЁГКА БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ

Іван Парафінюк жыве ў горадзе Полчын-Здруй, хаця 66 гадоў таму назад нарадзіўся ў пасёлку Кіеўцы каля Бярозаўкі. У 1947 годзе забралі яго ў армію і ад тае пары не вярнуўся ён на Бацькаўшчыну. Быў жаўнерам, рабочым,ураднікам. Лёс кідаў яго па ўсёй Польшчы, аж у канцы апынуўся ў Полчыне-Здроі. Калі мы бліжэй пазнаёміліся, пачаў ён расказваць пра сваю маладосць. Тое, што асталося наймацней у ягонай памяці гэта 1938 год, калі перад Спасам прыехала санацыйная паліцыя з рабочымі разбураць царкву.

— Перад вачамі стаяць, — гаварыў Іван Парафінюк, — тыя вобразы, калі скідаюць бляху з купалаў, здымаюць крыж, прадаюць дрэва, з якога пабудаваная была царква. Некаторыя гаспадары з суседніх вёсак, вядома, іншага веравызнання, будавалі сабе пасля з яго клуні і хлявы.



Улады тады рашылі, што праваслаўным непатрэбны свае святыні, а Іван Парафінюк рашыў, што ніколі і нідзе не адрачэцца ад свайго. І праўда, хаця большасць жыцця пражыў ён далёка ад роднай зямлі, захаваў ён сваю мову і веру.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### АЎКЦЫЁН У ЛОДЗІ

**5 снежня г.г. у памяшканні Польскай акадэміі навук, што ў Лодзі, на вул. Пятркоўскай 179, адбудзецца кніжны аўкцыён. Нашых чытачоў могуць зацікавіць наступныя выданні /падаем паводле аўкцыённага каталога/:**

Poz. 53 - Lachowski S., Kazania niedzielne x. Sebastyana Lachowskiego, T. 1, Supraśl 1793. Cena wywoławcza 200 tys. zł.

Poz. 141 - Bitwa warszawska, T. 1: Bitwa nad Bugiem: 27.VII - 7.VIII.1920, Cz. 1, cz. 2: Dokumenty, Warszawa 1935 /brak map i szkiców/. C.w. 280 tys. zł.

Poz. 160 - Gloger Z., Księga rzeczy Polskich, Kraków 1896. C.w. 100 tys. zł.

Poz. 182 - Korwin-Milewski O., Uwagi nad kwestyą włosciańską na Litwie, Paryż 1858. C.w. 80 tys. zł.

Poz. 191 - Kraszewski J.I., Litwa za Witolda: opowiadania historyczne, Wilno 1850. C.w. 170 tys. zł.

Poz. 194 - Księga pamiątkowa ku uczczeniu CCCL rocznicy założenia i X wskrzeszenia Uniwersytetu Wileńskiego, T.2/z.1/: Dziesięciolecie 1919-29, Wilno 1929. C.w. 50 tys. zł.

Poz. 196 - Kutrzeba S., Semkowicz W., Akta unji Polski z Litwą: 1385-1791, Kraków 1932. C.w. 160 tys. zł.

Poz. 211 - Mościcki H., Pod znakiem Orła i Pogoni: szkice historyczne, Lwów 1923. C.w. 90 tys. zł.

Poz. 212 - Mowa z powodu zeyścia z tego świata /.../ Tadeusza Kościuszki /.../ w czasie żałobnego obchodu przez Jednego z dawney artyleryi Weteranów w Białymstoku, dnia 3 maja 1818 roku miana, Warszawa 1818. C.w. 60 tys. zł.

Poz. 219. - Perevercev K.V., Spravočnaja kniga o prichodach i monastyrjach vołynskoj eparchii, Žitomir 1914. C.w. 250 tys. zł.

Poz. 220 - Piekosiński F., O źrodłach heraldyki ruskiej, Kraków 1899. C.w. 50 tys. zł.

Poz. 231 - Semkowicz W., W sprawie początków szlachty na Litwie i jej ustroju rodowego /odpowiedź drowi Oskarowi Haleckiemu/, Lwów 1916. C.w. 80 tys. zł.

Poz. 234 - /Skirmunttowa H./, Z życia Litwinki: 1827-1874: z listów i notatek, Poznań 1876. C.w. 150 tys. zł.

Poz. 241 - Stanisław August Poniatowski, król polski, Branicki Ksawery: Korespondencya między Stanisławem Augustem a K. Branickim łowczym koronnym w roku 1768, Kraków 1872. C.w. 100 tys. zł.

Poz. 257 - Wielhorski W., Byt ludności polskiej w państwie litewskim w świetle dochodzeń jej praw przed Ligą Narodów, Wilno 1925. C.w. 100 tys. zł.

Poz. 263 - Zaleski M., Pamiętniki Michała Zaleskiego, wojskiego Wielkiego Księstwa Litewskiego, posła na Sejm Czteroletni, Poznań 1879. C.w. 200 tys. zł.

Poz. 266 - Żeligowski L., Wojna w roku 1920 /wspomnienia i rozważania/, W-wa 1930. C.w. 150 tys. zł.

Poz. 281 - Gloger Z., Dolinami rzek: opisy podróży wzdłuż Niemna, Wisły, Bugu i Biebrzy, W-wa 1903. C.w. 120 tys. zł.

Poz. 287 - Kirkor A.H., Przechadzki po Wilnie i jego okolicach. Wilno 1856. C.w. 300 tys. zł.

Poz. 290 - Kłos J., Wilno: przewodnik krajoznawczy, Wilno 1929. C.w. 150 tys. zł.

Poz. 292 - Moszyński K., Polesie Wschodnie: materjały etnograficzne z wschodniej części b. powiatu mozyrskiego oraz z powiatu rzeczyckiego, W-wa 1928. C.w. 150 tys. zł.

Poz. 296 - Orłowicz M., Przewodnik po ziemiach dawnej Polski, Litwy i Rusi, W-wa 1914. C.w. 150 tys. zł.

Poz. 299 - Orłowicz M., Morsztyn R., Przewodnik automobilowy po Polsce, W-wa 1930. C.w. 200 tys. zł.

Poz. 308 - Przewodnik po Polsce w 4 tomach, T.1: Polska północno-wschodnia, W-wa 1935. C.w. 250 tys. zł.

Poz. 322 - Wisłocki A., Przez jeziora i rzeki Brasławszczyzny: reportaż z krajowej włóczęgi, W-wa 1934. C.w. 50 tys. zł.

Poz. 368 - Jucewicz L.A., Litwa pod względem starożytnych zabytków, obyczajów i zwyczajów, Wilno 1846. C.w. 300 tys. zł.

Poz. 373 - Karty pocztowe /60 szt./ z widokami miast i terenów Kresów Wschodnich, wyd. w latach 1900-1939. C.w. 1 mln zł.

Poz. 381 - Kraszewski J.I., Ostatni z Xiążąt Słuckich, Wilno 1841. C.w 100 tys. zł.

Poz. 415 - Podlacha W., Malowidła ścienne w cerkwiach Bukowiny, Lwów 1912. C.w. 150 tys. zł.

**У аўкцыёне можна прыняць удзел і пісьмова. У заказах дасланых на адрас:** Antykwariat Naukowy - Janusz Płóciennik i Mirosław Sobczyk, ul. Piotrkowska 85, 90-420 Łódź /tel 33-18-91/, **трэба падаць нумар пазіцыі, першыя словы загалоўка і найвялікшую суму грошай, якую заказчык згодны заплаціць за выданне.**

**ПЁТР БАЙКО**

Піражкі з макам




Быў у "Ніве" усюдысіцны ваяр Максім Нурэцкі. Гнаны цягай датыкання гісторыі, аднойчы запёр ён аж пад Леніна, пад славуты і ў той час праведны мемарыял. Паспеў на важную і людную рытуальную цырымонію, але прабрацца ў цэнтр падзеі не ўдалося. Хоць наш разведчык паклікаўся на кроўныя сувязі, мемарыяльная стража аказалася на вышыні: калі няма цябе ў нашым спіску, значыць, ты прыблуда і персона нон грата.

Прыперты да сценкі Максім няслаўна рэціраваўся. На дарогу пільныя стражнікі яшчэ агрэлі па спіне грэблівым словам:

- Что за птица?

- А, какой-то монгол...

І сапраўды, з твару ніўскі непаседа нагадваў залатаардынскага стэпавіка. Сам, унутрана сціплы падляшук, каларытна выказваўся аб сваіх не славянскіх вонкавых рысах. А мы пацяшаліаднагільдзейца, развівалі дзядзькаквасаву тыпалогію: усе мы - утоеныя яцвягі.

Гратэскавы эпізод з няўдалага важжу сабрата, расказаны ім асабіста, спярша абрадаваў мяне /добра, што так сталася, бо Максім у кожнай акалічнасці любіў камандаваць парадам, мог і тут парасстаўляць па кутках саноўнае начальства/, потым доўга не даваў спакою. Але мангалоідная стрэмка расплылася ў лянотнай дрымоце часу метамарфозаў. Максім ўжо далёка, асвойвае патойбаковыя маршруты. І раптам загрукаў ён у мае дзверы з неспатыканай дагэтуль сілай.

Улетку Янка Саламевіч з Менска, уведаўшы маю "гістарычную" слабінку, прыслаў вязку новых выданняў. Сяджу тады і чытаю. Ажно пачынаю сніць:

"У першай палове XIII ст. для аховы паўночных межаў Галіцка-Валынскага княства ад нападаў яцвягаў і літоўцаў у Брэсцкае Пабужжа была перасялена група полаўцаў. Іх пасяленні, размешчаныя ў вярхоўях рэк Пульва і Нурэц, на працягу некалькіх стагоддзяў былі цэнтрам Палавецкай воласці /Полаўцы, Вулька-Цераховская, Хлевішча, Сухадон, Голя і інш./".

Не, не сон гэта, то дакладны абзац з калектыўнай кнігі "Старонкі гісторыі Беларусі". Аўтар навуковай публікацыі "Этнічны склад насельніцтва заходняга Палесся ў X-XIII ст. ст. /па матэрыялах сельскіх паселішчаў/" А. В. Іоў спасылаецца на асобнае даследаванне М.І. Алексеюка "Половецкие поселения на Брестчине // Этногенез белорусов".

Вынікае, што памянёны цэнтр існаваў на нашай тэрыторыі. У азначанай паласе і роднае гняздоўе Максіма Нурэцкага. Вось вам і птушка! З якім багатым генафондам!

Цяпер сню мары. Ідуць маладыя археолагі. Перакопваюць Палавецкую воласць. Беларускі музей у Гайнаўцы завалены зярністымі пацеркамі /дрыгавічы!/ з наканечнікамі стрэл лука палавецкага імпарту /перакідка мастоў!/. Затым даследуюцца мясцовыя гідронімі і тапонімі. Поўны вэрхал. Нашы лінгвісты не ведаюць цюркскіх моў. Пра яцвяжскія дыялекты не ўспамінаю. Выбуховую сітуацыю лагодзіць антрапаметрыя. Вымярэнні абарыгеннага цела і яго частак вылучаюць асімілятарскі нораў беларускага этнасу. Даем волю пачуццям. Наступае вяртанне ва ўлонне раскольніцкых кірызюкінцаў. Але на распаленым небе з'яўляецца мутная хмара. Замаячыў на даля-глядзе ханападобны ўладалюбец. У паветры залунала ідэя новага народа.

Чаму б не! На суседнім Пабужжы адраджаецца Яцвягія, у белавежскім скансэне былыя беларускія актывісты будуюць Трызубію, а белавежац /дрыгавіч?/ Пятрусь Байко ў Лівіі на працягу тысяча і адной ночы плодзіць з тамашнімі Шахразадамі ваярскі атрад пародзістых крывічоў. Усё можа здарыцца. Таму я не буду тлуміць галаву вам адвольнымі разважаннямі. Самы час перавесці дых і расчысціць пераемны арэал.

Даследчыкі, наперад!

**СІДАР МАКАЦЁР**

## ПАЛАНЕЗ АГІНСКАГА ГІМНАМ БЕЛАРУСІ?

Неўзабаве Беларусь будзе мець свой новы дзяржаўны гімн. Цяпер пакуль што жыхароў рэспублікі вітаюць раніцай па радыё мелодыяй гімна былой БССР. Праўда, слоў ужо не спяваюць.

У лістападзе гэтага года зноў пачалася дыскусія, які мае быць нацыянальны гімн беларусаў. З таго, што сказаў у радыёперадачы з Менска віцэ-міністр культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Рылатка, я даведаўся, што да гэтай пары разглядаліся ўжо 67 паэтычных і 31 музычны твор. Цяпер з гэтага ліку разглядаецца толькі сем. Тры з іх гэта класіка, апошнія — творы сучасных паэтаў і кампазітараў.

На колькі мне вядома, ніводзін з іх не выклікаў захаплення беларускага грамадства і апошнім часам зноў разглядаецца прапанова прызнаць гімнам Беларусі паланез Міхала Агінскага „Развітанне з Радзімай".

Ёсць і паланез Агінскага, і шмат іншых прыгожых і патрыятычных песняў, якія спяваюць беларусы ва ўсім свеце. Каб толькі нашым гімнам не стала балада пра калгас ці трактар.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**



# СТАРЫ ДУБ І ЯГО ДЗЕЦІ

У цёмным лесе, сярод хвой высокіх, ля бяроз гнуткіх рос дуб-волат. Колькі гадоў сваімі карэннямі ўрэзваўся ён у зямлю-матулю, ніхто не ведаў. Рос ён тут многа стагоддзяў; ужо нашы дзяды і прадзеды глядзелі на ягоны магутны ствол, захапляліся пышнай каронай.

Дзеці прыходзілі сюды па жалуды, якія густа ўсцілалі зямлю пад дубам. Дзяўчаты і хлопцы свае першыя любоўныя сустрэчы праводзілі таксама пад гэтым магутным дрэвам.

Людзі радзіліся, раслі і паміралі. Многа пакаленняў аджыло сваё жыццё, а дуб амаль не мяняўся.

Ён, кароль лесу, горды і прыгожы, нікога і нічога не баяўся.

Быў ён адзіным дубам на ўсю ваколіцу, а сам меркаваў, што адзіным у свеце.

Але прыйшла прыгожая вясна і паявіліся тоненькія галінкі, якія выраслі з зямлі абапал дуба-волата. Ніхто не звярнуў на іх увагі, але прыйшла другая вясна і аказалася, што галінкі перамяніліся ў малюсенькія дубочкі. Было іх два, браты-аднагодкі.

Стары дуб спачатку цешыўся, што ўрэшце дачакаўся нашчадкаў, але потым, пасля доўгіх роздумаў, дайшоў да вываду, што чакае яго з боку дубочкаў пагроза.

— Яны ж забяруць мне ваду, высмакчуць яе з-пад карэнняў, а потым будуць хапаць кожны прамень сонца і не дадуць маім ніжэйшым галінкам развівацца! Не, не буду з імі, недаросткамі, дзяліцца сваім каралеўствам!

Карэнні свае пускаў у тыя бакі, дзе раслі дубочкі, галіны нахіляў як найніжэй над імі, каб не маглі пацешыцца прамянямі сонца.

Усе свае дзеянні накіроўваў на тое, каб загубіць сынкоў. Пасля нейкага часу загінуў першы, а другі стаў крывым, хворым дрэўцам. Не шкадаваў аднак стары дуб калеку і цешыўся, што ўжо хутка не стане саперніка.

Але прыйшла жахлівая восеньская ноч. Вецер прыгнаў над гэтую ваколіцу ўсіх сваіх слуг. Зямля перамянілася ў пекла. Гнуліся бярозы, стагналі сосны, а стары дуб пачаў трашчаць і прасіць ветру, каб той ужо скончыў свае здзекі. Вецер аднак нічога не чуў, не сціхаў, толькі з кожнай хвілінай рабіўся мацнейшым і страшнейшым.

Затрашчаў стары дуб, застагнаў і цяжка зваліўся на грудзі свае матухны-зямлі. Громам панеслося па лесе яго падзенне.

Задрыжэлі ўсе дрэвы, заплакалі сосны і раптам... стала ціха.

Смерць караля пушчы была так нечаканай, што ўсе дрэвы замерлі ў вялікім жаху.

— Няма караля, няма караля, — першыя зашумелі асіны. Лес ажыў і пачаўся хаўтурны спеў. Доўга шкадавалі караля дрэвы, а і людзі, калі прыйшлі ў пушчу і ўбачылі паваленага дуб, вельмі засумавалі. Ён быў сімвалам вечнасці, але яшчэ раз аказалася, што нічога вечнага на гэтым свеце няма.

Бедны калека, дубочак-сірата таксама шкадаваў свайго бацьку, хаця той сваімі эгаістычнымі паводзінамі акалечыў яго ствол і жыццё. Думаў, што ў тую жахлівую ноч перарвалася не толькі жыццё старога дуба, але і яго самога. Аднак дубок рос далей.

Аднойчы прыйшлі дрывасекі і вырубілі лес, пакінулі толькі дуб-калеку. Нікому ён, крывы, не быў патрэбны.

З цэлага лесу застаўся толькі ён, адзінокі. Задумаўся.

І хаця вельмі кахаў бацьку, ведаў, што гэта ён прычыніўся да смерці ягонага брата. Гэта ж ён, дуб-кароль, сваім эгаізмам давёў і яго самога да хваробы, і, калі б не тая страшэнная бура, якая павaліла старога, і ён таксама не пажыў бы доўга.

Таму і нам, калі наша жыццё аддвітае, трэба ведаць, што яно не вечнае, і даць трэба месца новаму пакаленню. А то можа здарыцца так, што мы адыдзем, а нашыя нашчадкі, не ўмеючы жыць без нас, загінуць!

**ЯЛАНТА ГРЫГАРУК**

## НАС ТАМ НЕ БЫЛО! ЧАМУ?

Бывае часта так, што некаторыя з нас наракаюць на ўрад ці мясцовую адміністрацыю, быццам яны перашкаджаюць нам дзейнічаць на грамадскай ніве. Калі аднак ёсць нагода, каб нешта сапраўднага зрабіць, адразу ўзнікае пытанне — ці варта, каму гэта патрэбна?

Цяжка нам апраўдаць такую нявыкарыстаную аказію, як агульнапольскі агляд культуры нацыянальных меншасцяў, які адбываўся ў Варшаве ў днях 23—25 кастрычніка гэтага года. Была там магчымасць паказацца нам сярод іншых меншасцяў, рэкламаваць нашую культуру ў польскім асяроддзі.

У камуністычную эпоху, якую не адзін з нас падтрымоўваў, пераконвалі нас, што няма ніякіх меншасцяў, а калі і ёсць, дык гэта толькі нейкія фальклорныя групы, якія раней ці пазней расплывуцца ў польскім этнасе. Вядома, што ад трох гадоў інфармацыйная палітыка ў адносінах да нацыянальных меншасцяў радыкальна змянілася. Здавалася б, што дзеячы ад меншасцяў, у тым і беларускія, пакажуць, што можна зрабіць у дэмакратычнай сістэме.

І калі зарганізавалі агляд культурных дасягненняў нацыянальных меншасцяў у Польшчы, ад беларусаў не прыехаў ніхто. Варшаўская публіка магла тады пабачыць украінскіх, цыганскіх, літоўскіх, славацкіх і нямецкіх самадзейнікаў.

Нам, варшаўскім беларусам, засталося толькі спадзявацца, што сёлетняя непрысутнасць нашых беларусаў з Беласточчыны будзе рэкампенсавана іх актыўным удзелам у такіх аглядах у будучыні. Гэтага спадзяюцца і арганізатары агляду, якія чакаюць пісьмовых прапаноў ад калектываў, таварыстваў, прафсаюзаў і прыватных асоб. Падаем іх адрас: Warszawa—Ursus, ul, Traktorzystów 14, Ośrodek Kultury „Arsus", telefon: 667-34-54.

**ЛІДЗІЯ І МІХАЛ ЛЯНЧЭЎСКІЯ**, Варшава

P.S. Ганарар просім пералічыць на рахунак Беларускага музея ў Гайнаўцы.

## FESTIWAL MNIEJSZOŚCI NARODOWYCH

Towarzystwo Polsko-Ukraińskie w Gdańsku oraz Young Men's Christian Association z siedzibą w Gdyni pod patronatem Wydziału Kultury, Nauki i Sportu Urzędu Wojewódzkiego w Gdańsku organizują w Gdyni w dniach 15-17 stycznia 1993 roku I Ogólnopolski Festiwal Mniejszości Narodowych. Przygotowywana impreza ma charakter precedensowy i służy prezentacji dorobku kulturalnego: Białorusinów, Greków, Litwinów, Niemców, Romów, Słowaków, Ukraińców i Żydów. Poza ukazaniem osiągnięć artystycznych narodowości, z którymi Polska i Polacy sąsiadują, pokazy festiwalowe mają służyć promowaniu zasad tolerancji oraz poszanowania praw narodów do wyboru dróg własnego rozwoju. Organizatorzy sądzą, iż w momencie eksplozji w tej części kontynentu konfliktów narodowościowych imprezy festiwalowe są szczególnie potrzebne, gdyż ukazują możliwość współistnienia obok siebie, a nie przeciw sobie narodów i grup etnicznych zamieszkujących Europę Środkowo-Wschodnią.

W Festiwalu Mniejszości Narodowych udział wezmą: teatry, grupy rockowe, zespoły folklorystyczne oraz indywidualni twórcy ze swoimi prelekcjami i wystawami dokumentującymi życie społeczeństw Europy Środkowo-Wschodniej. Komitet Organizacyjny Festiwalu liczy na zaangażowanie jak największego kręgu osób, które byłyby zainteresowane promocją naszego przedsięwzięcia. Imprezy festiwalowe są otwarte dla wszystkich, a ich powodzenie zależy od reakcji ludzi, którzy są gotowi pomóc w realizacji idei festiwalowej.

Zapraszamy wszystkich chętnych do wzięcia udziału w I Ogólnopolskim Festiwalu Mniejszości Narodowych.

**Зацікаўленых удзелам у Фестывалі просім пісаць на адрас:**

81-346 Gdynia
ul. Żeromskiego 26
Biuro Organizacji Festiwalu Mniejszości Narodowych.




Працяг са стар. 4

## ЦІ ТОЛЬКІ Ў КАПІТАЛІЗМЕ СУМЛЕННЫЯ ЛЮДЗІ?

Рубрыку „Якія мы людзі" я чытаў з такім жа пачуццём, з якім яна для нас пішацца, — з прыкрасцю. Звярніце ўвагу, тут няма нічога выдуманага; адны толькі прыклады з жыцця, якія сп. Ада Чачуга бачыць вачыма сэрца. Бо вачыма, якія размяшчаюцца ў нас паабапал носа, кожны бачыць як дабро, так і зло, але з прычыны абыякавасці падыходу да справы, да чужога болю, крыўды, а нават слёз аднак маўчыць, бо гэта „не яго справа". Яму баліць толькі тады, калі трэплюць яго або ягоных дзяцей. За жонку ён ужо не заступіцца, бо і добра, што налупілі.

Малайчына спадарыня А. Чачуга яшчэ і за тое, што вярнула рубрыку, якую я ў „Ніве" запачаткаваў.

Але чаму я якраз сёння вырашыў напісаць адгалоску пад гэтакім загалоўкам? А вось чаму. У другім абзацы апавядання „Бульба" („Ніва" з 25 кастрычніка 1992 г.) ёсць такія словы: „Так і сёння вось. Нехта з сацыялістычнай яшчэ, народаўласніцкай меншалянцыяй ізноў рассыпаў бульбу каля шпітальнага склада. Здалёк відаць было, што бульба і сёлета ў шпіталі добрая. Ніхто яшчэ не паспеў яе растаптаць".

Я не маю ніякага аргументу на апраўданне нашай і польскай меншалянцыі і негаспадарнасці; аб гэтым можна доўга гаварыць, але не згаджаюся з поглядам, што гэтую нашу адмоўную рысу, такія адносіны да агульнага дабра, агульнай маёмасці „выгадаваў" у нас сацыялізм. Не, гэтая паршывая рыса перадаецца з пакалення ў пакаленне аж да нейкага пераломy.

Пасля II сусветнай вайны ў лагеры сацыялістычных (няхай сабе „так званых") краін апынулася не толькі Польшча.

У гадах 1981—1982 я працаваў у Чэха-Славакіі пры пабудове электрастанцыі Прунежоў-II і бачыў, якімі гаспадарамі з'яўляюцца чэхі ў адносінах да сваёй зямлі. З плошчы, дзе мела стаць электрастанцыя, дзесяткі аграмадных „татраў" вывозілі кудысьці ўраджайную (верхні пласт) зямлю. Збіралі яе ў цэлафанавыя мяшкі па 50 кілаграмаў ды ўдзень і ўначы вывозілі. Аднойчы я бачыў (клянуся сваім здароўем), як з аднаго самахода ўпаў мяшочак гэтай зямлі. Шафёр, які ехаў за ім, затрымаў сваю машыну і падняў згублены мяшок ды палажыў у свой кузаў. Не рабіў гэтага для так званага людскога вока, бо нікога навокал не бачыў. Была ноч і я яго заўважыў толькі таму, што мусіў. Калі б гэтую працу выконвалі нашыя палякі, то машыны ездзілі б не па асфальце, а па той жа здратаванай коламі ўраджайнай глебе. Хто з нас захацеў бы вылезці з кабіны, каб падняць мяшок цэменту, не гаворачы ўжо аб зямлі, якой усюды поўна? А чэх зрабіў гэта. Інідзе па шашы не было ні камка рассыпанай гэтае дарагое карміліцы. А як на Украіне абыходзяцца з пшаніцай? А ну так, як у нас з гэтай бульбай, аб якой напісала аўтарка Ада Чачуга. Толькі яшчэ ў сто разоў горш, бо там, калі адбываецца звозка пшаніцы, то шаша ад яе жоўтая, быццам пазалочаная, а з-за птушак нельга праехаць.

Самі палякі гаварылі, што калі б чэхі будавалі вілы такім спосабам, як мы, то электрастанцыя ніколі не паўстала б з тае прычыны, што рабочыя прадалі б чэхам усё, што краіна прывезла дзеля патрэб гэтай будоўлі. І так, што там рабілася — няхай Бог крые, але аб гэтым мо калі пры іншай нагодзе.

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

Ад рэд. З рубрыкамі — яно як з песнямі, народнымі, вядома. Нехта пачаў, напісаў словы і мелодыю, а хто — людзі ўжо не памятаюць. Але спяваюць усе ахвотна.

**А. Ч.**

## СЕНТЫМЕНТАЛЬНЫ „MAGAZYN"

З ліку звыш дзесяці польскіх часопісаў, якія адрасуюцца чытачам на Беларусі, хачу звярнуць увагу чытачоў „Нівы" на квартальнік „Magazyn Polski". Як большасць польскамоўнай прэсы, распаўсюджванай на Беларусі, „Магазын" рыхтуецца ў Польшчы. У Варшаве яго набіраюць і вярстаюць і, зразумела, адтуль амаль усе аўтары змешчаных у ім матэрыялаў. З увагі на многа таннейшы кошт паліграфічных паслуг на Беларусі, чым у Польшчы, „Магазын" друкуецца ў Слоніме. Афіцыйны адрас рэдакцыі: Гродна, вуліца Дзяржынскага, 90„а".

Сярод аўтараў „Магазына" — вельмі добра вядомыя чытачам беластоцкіх газет Юзэф Марошэк, Ян Леоньчук, Лешэк Пасталовіч і іншыя.

У другім нумары квартальніка грамадзяне Беларусі могуць прачытаць вельмі лірычнае эсэ Эўгенiюша Скрабоцкага пра любоў да польскай айчыны, артыкулы пра вялікіх палякаў, якія стваралі цывілізацыю на Беларусі. Беластоцкія аўтары пішуць пра гістарычныя сувязі гарадоў і вёсак, што цяпер на Беларусі, з польскай культурнай спадчынай. Увагу прыцягваюць таксама ўспаміны ксяндза Юзэфа Гарадэньскага, якога лёс кінуў у 60-х гадах у беластоцкую Нарву.„Z prawosławnymi żyłem w zgodzie, — піша ксёндз Гарадэньскі, — ale niepolski element administracyjny wraz z aparatem Służby Bezpieczeństwa w Hajnówce robił co mógł, aby mi jakoś dokuczyć". А найцікавейшыя ў гэтым нумары — гэта лісты і заўвагі ад чытачоў. Лена Наско з вёскі Бегішы Ваўкавыскага раёна дзякуе ўсім „którzy przyczynili się do powstania takiego pisma, gdzie możemy zobaczyć to prawdziwe życie Polaków na Białorusi". Клара Тжэцяк з Ваўкавыска піша, што ведае пра дагаворы паміж урадам Польшчы і Беларусі, але хацела б ведаць таксама „co myśli rząd polski o swoich niegdyś ziemiach". Ну і шмат падобных і не менш цікавых выказванняў.

Чытачоў „Нівы", якія хацелі б купіць „Магазын" інфармую, што не шукайце яго ў рэдакцыі, бо я атрымаў усяго адзін экземпляр ад сяброў з Беларусі. Можна яго там купіць у кожным касцёле. Ведаючы, як часта жыхары Беласточчыны ездзяць у Беларусь, лічу, што і без дапамогі рэдакцыі будуць яны маглі купіць сабе гэтае выданне.

**ІГНАТ АЗІЯТОВІЧ**

## ШУКАЮ ДЗЯДЗЬКУ



У сям'і майго бацькі, Уладзіміра Анташука, было сем чалавек. Двое дзяцей памерла ад эпідэміі. Тыя, што засталіся гэта цёткі Вольга і Анна ды дзядзькі Мікалай і Міхал. Міхал Анташук быў наймалодшым з усёй сям'і.

З Трасцянкі, там у час нямецкай акупацыі жыла бацькава сям'я, шмат людзей сілаю вывезлі на работу ў Нямеччыну. У Трасцянцы жывуць яшчэ людзі, якія ўсё гэта памятаюць. На работу ўзялі і майго дзядзьку Міхала. Быў з ім у Нямеччыне яшчэ адзін хлопец з Трасцянкі, але яго прозвішча ўжо не памятаю. З лістоў, якія Міхал слаў дахаты, даведаліся мы, што працу меў ён цяжкую, а кармілі там слаба. Пасылалі мы яму пачкі. Вось, памятаю, як аднаго разу спяклі мы вялікі бохан хлеба, такі на 4-5 кілаграмаў, усярэдзіне схавалі літровы буталь спірту ды паслалі гэта ў Нямеччыну. Пазней напісаў ён нам у лісце, што ўсё гэта атрымаў - спірт прадаў ды меў такім чынам за што жыць.

Апошні ліст ад Міхала атрымалі мы, як Намеччыну заняла Чырвоная Армія. Міхал пісаў, што ўсіх тых, якія як і ён працавалі ў немца, узялі у савецкую армію, далі мундзіры і зброю. "Служыў ты немцу, цяпер будзеш служыць нам" - сказалі гэтым хлопцам ды паслалі іх на першую лінію фронту. Дзядзька Міхал быў самым маладым у сям'і, у войску раней не быў. З тае пары не было ўжо ніякіх вестак ад яго. Не ведаем як, і дзе загінуў. Колькі мы не пісалі і дзе не шукалі. Усё без поспеху.

**ВЕРА АНТАШУК, БЕЛАСТОК**

## ПАРНАСІК

### БЕЛАРУСКІ ДУХ У ГМІНЕ

Дубічы-Царкоўныя —
Людзі тут размоўныя.
Усе мы тут беларусы,
Не якіясь там „трусы"!

Наша гміна чэсная,
У людзей пачэсная,
Правіць войт Паўлоўскі,
Чалавек ён свойскі,

Добра гаспадарыць
І, напэўна, марыць,
Каб плыло ў парадку
Нам жыццё ў дастатку.

Беларускі дух! —
Ён тут не патух,
А на кожным кроку,
І з кожнага боку

Чуем мы цудоўныя
Нашы словы родныя;
Усе гутараць смела,
Дасканала-умела:

Усе працаўнікі,
Іх кіраўнікі;
Беларуска мова —
Нашая аснова.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## З ДРУКУ

### "... Беларусаў трактаваць сур'ёзна"

"Кур'ер Паранны" /н-р 225 ад 27.10.1992 г./ правёў цікавую размову са **Здзіславам Найдэрам** на тэму ўсходняй палітыкі Польшчы. Ніжэй друкуем фрагмент інтэрв'ю Казімежа Расінскага з былым дарадчыкам экс-прэм'ера Яна Альшэўскага наконт беларускага пытання ў варшаўскай палітыцы.

**- A czy daje pan jakieś szanse Białorusinom na pełną niepodległość?**

- To jest historia o wiele bardziej skomplikowana, ale moim zdaniem, my powinniśmy robić o wiele więcej, niż robimy. Uczestniczyłem w przygotowaniach i rozmowach z białoruską delegacją rządową. I zapoznałem się z całą złożonością sprawy, łącznie z tym, że część rządu białoruskiego nie mówi po białorusku. I że właściwie wszyscy oni, z wyjątkiem Szuszkiewicza, to byli komuniści, niektórzy o przeszłości bardzo ponurej. Ale oni też przyjęli opcję współpracy z Zachodem. Dla mnie uderzające było to, że przy rozmowach o otwarciu drugiego konsulatu białoruskiego oni nie proponowali konsulatu w Białymstoku, tylko w Gdyni, to znaczy chcą, żeby Polska była dla nich oknem na świat. A to leży w naszym interesie. Czy patrzymy na to ideowo, jako na promieniowanie kulturowe Rzeczypospolitej, bo przecież cała Białoruś była w obszarze promieniowania Pierwszej Rzeczypospolitej, czy też patrzymy na to wręcz cynicznie, że oto będziemy mieli państwo buforowe, niepodległa Białoruś leży w naszym interesie. A tymczasem my jesteśmy, niestety, dość bierni w tej sprawie. Dotychczas inicjatywy wychodziły od strony białoruskiej. Za rządu premiera Olszewskiego były one szybko przyjmowane. Mam nadzieję, że po okresie kilkumiesięcznej dziury pani premier podejmie te inicjatywy.

**- Jakiego rodzaju działania ma pan na myśli?**

- Ja na miejscu premiera wydałbym okólnik do ministrów, by każdy z nich w ciągu trzech tygodni przyszedł z projektem, co jego ministerstwo może zrobić w zakresie współpracy z Białorusią. Tak to należy rozwiązywać, moim zdaniem.

**- Wszystko to oczywiście przy założeniu, że większość Białorusinów zdecydowana jest budować niepodległe państwo?**

- Myślę, że takie założenie należałoby przyjąć, bo z tym, proszę państwa, jest jak w mikrofizyce, gdzie sam fakt przeprowadzenia eksperymentu wpływa na jego wynik. Jeśli będziemy się nimi interesować, wynik będzie inny, niż wówczas, gdy odwrócimy się od nich plecami. Tu nie chodzi o to, żeby działać przeciwko Rosji. Chodzi natomiast o to, żeby Białorusinów traktować serio.

**- Czy nie uważa pan, że w ten sposób narazimy się Moskwie?**

- Nie. Uważam, że w tej chwili ze strony Rosji nic nam nie grozi. Natomiast zaniedbanie stosunków z Białorusią pociągnie za sobą o wiele gorsze konsekwencje. Tak, że nie powinniśmy zbytnio przejmować się jakimś oznakami niezadowolenia w Moskwie, bo oni tam mogą się krzywić.

*Мал. Войцеха Залэнскага*



# Зорка
## Старонка для дзяцей

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### ПЕПІТА І НАПАЛЕОН

Аднойчы ў госці да Веранiччынай Мамы прыйшла цёця Надзя і прывяла з сабой свайго любімага ката. Яго звалі Напалеон, і выглядаў ён зусім не так, як Пепіта: меў кароткую светлую поўсць, чорныя лапы і чорную пірацкую морду. Цётка Надзя растлумачыла, што такія каты завуцца сіямскімі.

Мама і яе госця селі піць каву, а Напалеон пачаў аглядаць хату. І ў другім пакоі раптам убачыў прыгажуню котку з доўгай белай поўсцю. Напалеон зірнуў у яе вялікія зялёныя вочы і адразу вырашыў, што зробіць усё, каб спадабацца. І Напалеон выпнуў колам спіну, замахаў хвастом і з ласкавым муркатаннем падышоў да котачкі. Але Пепіта - гэта была, канечне, яна - толькі фыркнула і адвярнулася. Ёй зусім не спадабаўся гэты прычэпа. Тады Напалеон вырашыў паказаць сваю спрытнасць і смеласць. Кот скочыў на карункавыя фіранкі і, чапляючыся кіпцюрамі, палез па іх наверх. Тонкая тканіна затрашчала, і занавескі пад кіпцюрамі Напалеона парваліся на палосы. Кот упаў на падлогу. Не, яшчэ не ўсё згублена! Пад пагардлівым позіркам Пепіты Напалеон пачаў скакаць на сцены і кіпцюрамі адзначаць на шпалерах узятую вышыню.

Але і гэта не зрабіла на Пепіце ўражання. Заставаўся апошні сродак: прадэманстраваць сябе ў сапраўднай справе. А як яшчэ пазнаецца вартасць ката, як не ў паляванні на мышэй? І Напалеон прыняў паляўнічую стойку і пачаў шукаць ахвяру. Сапраўды ў пакоі пахла мышамі. Кот хутка знайшоў пад шафай норку і сеў каля яе. Неўзабаве ў норцы нехта засоп, закрахтаў, і ў пакой выбегла тоўстая шустрая мыш. Такой тоўстай мышкі Напалеон яшчэ ніколі не бачыў, таму адразу разгубіўся і не схапіў яе. Але пасля засычэў, як распалены прас ад вады, і кінуўся за нахабніцай.

Пік-Пік - а гэта была яна! - бегла з пустым слоікам на кухню - па кампот, калі над вухам у яе нешта засычэла. Пік-Пік азірнулася і ўбачыла ашчэраную пашчу чужога ката. Мышка завішчэла і з усяе моцы надзела слоік на каціную галаву. Напалеон спыніўся і заматаў галавой, а Пік-Пік скочыла яму на спіну і забубніла па ім лапкамі:

- Я табе пакажу, як пагражаць мне, МНЕ!

Бедны Напалеон не ведаў, што рабіць. Тут падыйшла Пепіта, папрасіла ў мышкі прабачэння за напад, зняла слоік з галавы Напалеона і аддала гаспадыні. Мышка грозна піскнула і пайшла па сваіх справах. Напалеон зірнуў у гнеўныя вочы Пепіты і сеў.

- Ты што гэта сабе дазваляеш?! - строга сказала Пепіта. - Прыйшоў у чужы дом, парваў фіранкі, падраў шпалеры, на гаспадароў палюеш! Колькі жыву, не бачыла такую некультурную жывёлу!

Напалеон сядзеў зусім няшчасны. І тут у пакой зайшлі Мама і цёця Надзя.

- Хто гэта зрабіў?! - запыталася Мама, паказваючы на фіранкі і шпалеры.

- Не можа быць, каб мой коцік! - запэўніла цёця Надзя. - Ён такі выхаваны, такі паслухмяны!..

- Значыць, гэта ты, Пепіта?

І тут Напалеон выйшаў наперад:

- Гэта я зрабіў... Прабачце...

Цёця Надзя пачырванела і пачала прасіць у Мамы прабачэння. А Пепіта ўпершыню зірнула на госця з цікавасцю. А ён быў такі няшчасны, што котка падыйшла да яго і сказала:

- Ты зрабіў мужны ўчынак. І хаця ты цалкам дурны і некультурны, я магу з табой пасябраваць... У мэтах выхавання.

Кот ад радасці і нечаканасці гучна мяўкнуў і падскочыў так высока, што збіў з паліцы крышталёвую вазу. Цёця Надзя хуценька схапіла свайго гадаванца і развіталася. А Пепіта села на падваконнік, доўга глядзела гасцям услед і загадкава ўсміхалася.

ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ






УЛАДЗІМІР СІЎЧЫКАЎ

## КАРОЛЬ І МАЙСТРА

**АСОБЫ:**

Кароль - лысы стары з чорнымі вусамі і густымі бровамі.
Маршалак - безаблічны чалавек у чорных акулярах.
Майстра.
Майстрава жонка.

У правым баку сцэны стаіць невысокі стол, а пры ім два зэдлікі. Злева, у глыбіні сцэны, - трон. На зэдліку па-за ім намалявана сцяна каралеўскага палаца.

**ПРАЯВА 1-я**

Кароль сядзіць на троне. Маршалак стаіць, пачціва схіліўшы голаў. Чуваць, як недзе далёка гадзіннік б'е дванаццаць разоў.

Кароль *(сам сабе)*. Поўнач... І чаму толькі кажуць, што мы, каралі, на час не зважаем, што ў нас лёгкае, бесклапотнае жыццё?! Узяць хаця б мяне. Днём і ўначы няма мне спакою. Адно толькі і думаю, што пра сваіх падданых, адно толькі і дбаю, што пра моц свае дзяржавы. Але, як ні старайся, дзе ты будзеш добрым для ўсіх! *(Да Маршалка.)* Ну дык што добрага чуваць, мой Маршалак?

Маршалак. Падданыя плённа працуюць ды ўсхваляюць ваша мудрае праўленне...

Кароль *(перапыняе Маршалка)*. Гэта я чую ад цябе штодня. Скажы тады, мой Маршалак, што кепскага чуваць?

Маршалак *(муляецца, адказвае не адразу)*. Зноў дзе-нідзе, Ваша Каралеўская Мосць, з'явіліся незадаволеныя. Падбухторшчыкі распускаюць злосныя чуткі...

Кароль. Якія чуткі?

Маршалак. Асмелюся далажыць, Ваша Каралеўская Мосць, яны кажуць, што скора вашаму праўленню прыйдзе канец, што вы, маўляў, цяжка захварэлі і дні вашы ўжо злічаныя...

Кароль *(ускаквае з трона)*. Што?! Я памру?! *(Да Маршалка.)* Здраднік! Прэч з маіх вачэй! Ідзі ты як след правер свае звесткі!

Маршалак паспешліва кланяецца, робіць выгляд, што сыходзіць, а сам хаваецца за каралеўскім тронам.

Кароль *(ходзіць перад тронам узад і ўперад)*. Незадаволеныя... Падбухторшчыкі... Хіба можна даваць веры нават Маршалку?! Мусіць, зноў трэба самому ісці ды паглядзець, хто і як бавіць час у маім каралеўстве. Пераапрануся ў жабрака ды прайдуся па начным горадзе. *(Здымае карону і ставіць яе на трон, потым нацягвае на адно вока чорную павязку і, падкурчыўшы левую нагу, выходзіць на мыліцах.)*

Маршалак *(вылазіць з-за трона)*. Вось табе і маеш! Служу верай і праўдай, а гаспадар мой поначы, рызыкуючы сваім бясцэнным жыццём, ідзе спраўджваць, ідзе правяраць мае найдакладнейшыя звесткі!.. Аднак мушу спяшацца, ісці следам, як цень, каб прадухіліць магчымы замах ці якую іншую неспадзяванку. *(Асцярожна крадзецца, знікае за кулісаю.)*

Святло на сцэне гасне, двойчы б'е гадзіннік. Зноў запальваецца святло.

**ПРАЯВА 2-я**

Майстра з жонкаю сядзяць за сталом і вячэраюць. Кароль, пераапрануты жабраком, паказваецца з-за кулісы, грукае мыліцаю. Маршалак асцярожна выглядвае з-за процілеглай кулісы.

Кароль *(да Майстра з яго жонкаю)*. Добры вечар у хату!

Майстра *(разам з жонкаю)*. Вечар добры! *(Падымаецца насустрач госцю.)*

Кароль. Іду гэта я, гляджу - усе спяць, і адно толькі ў вашым доме святло гарыць, галасы чуваць. Дай, думаю, зазірну, што за людзі.

Майстра. Мы гасцям заўсёды радуемся. Прашу праходзіць, садзіцца за стол. *(Майстра да жонкі.)* Збяры яшчэ чаго-небудзь на стол!

Кароль з Майстрам садзяцца. Майстрава жонка завіхаецца каля стала.

Кароль. Братка, выбачай за пытанне, але скажы, чым ты займаешся, што можаш у будні дзень баляваць, нібыта ў свята?

Майстра. Я, браце, гадзіншчык, майстар па гадзінніках, але ўсё, штоараблю за дзень, праядаю вечарам са сваёй сям'ёю.

Кароль *(здзіўлена)*. І ні капейкі не адкладаеш на чорны дзень?!

 *Працяг на стар. 10*

## Вершы Віктара Шведа

**НЕ МУЦІ ТЫ ВАДЫ ЧЫСТАЙ**

Мае звычку пастаянна
Хваліцца Валодзя:
- Патрабуе мая ванна
Вады трыццаць вёдзер!

- Не муці ты вады чыстай, -
Адазваўся Бора. -
У маю ліць можаш трыста;
Згінуў недзе корак!

**КОЛЬКІ ХОДЗІЦЬ ГАДЗІННІК?**

Гаворыць няспынна
Голасам салодкім:
- Два тыдні гадзіннік
Ходзіць без заводкі.

Спытаўся Валодзя
Гадзіншчыка ўрэшце:
- А колькі ён ходзіць,
Калі ўжо завесці?

**ПАБРУДЗІЎ РУКІ... ШЫЯЙ**

Бабуленька строга
Аблаяла Лёню:
- Адкуль бруду многа
Узяў на далоні?

І словы такія
Пачула ад унука:
- Я мыў сабе шыю,
Пабрудзіў ёю рукі!

**ТРЭБА ТРЫМАЦЬ АБЕРУЧ**

- Ці ведаеш, браток, -
Сябры Пятра спыталі, -
Трымаць як малаток,
Каб не папасці ў палец?

Пятро ім адказаў:
- У цуды я не веру.
- Скажам табе, каб знаў:
Трэба трымаць аберуч!

**ДЫЯЛОГ**

- Я меў учора шчасця многа, -
Расказвае малы Андрэй. -
Упаў гадзіннік на падлогу
І там ішоў сабе далей.

- А я не меў такога шчасця, -
Кажа на гэта Яраслаў. -
На брук паспеў мой толькі ўпасці -
І быццам камень там ляжаў...

**ЛОНДАН ПАКАЖЫ НА КАРЦЕ**

Загадаў настаўнік Марце:
- Еўропа вось вісіць,
Лондан пакажы на карце,
Пакажы, дзе ён ляжыць.

Знервавалася малая:
Як той Лондан адшукаць?..
Кажа: - Там імгла такая,
Што... нічога не відаць!



У дзедавым „летніку".
*Фота М. Лукшы*

Працяг са стар. 9

Майстра. Э-э, браце мой, цяпер такое жыццё пайшло - ніхто не ведае, што будзе заўтра. Можа, табе жыць нядоўга засталося. *(Кароль ледзьве ўтрымліваецца, каб не ўскочыць.)* Можа, я памру праз дзень. Дык нашто адкладаць, нашто эканоміць тыя грошы? Да таго ж працы мне хапае - гадзіннікі ў нашым каралеўстве ў адных спяшаюцца, у другіх - позняцца, а ў большасці і наогул стаяць.

Маршалак падкрадаецца бліжэй, прыслухоўваецца да размовы.

Кароль *(азіраецца)*. А ў тваім доме нешта зусім не відаць гадзінніка. Шчасліва жывеш?

Майстра. Ды не скарджуся... А час я і так, без гадзінніка, адчуваю дакладна.

Кароль. А я дык дакладна ведаю праз даўніх сяброў, якія служаць пры палацы, што Кароль мяняе радцаў, збіраецца прыняць новы Статут. *(Маршалак пры гэтых словах хапаецца за галаву.)* Можа, тады гадзіннікі ўсім будуць без патрэбы?

Майстра *(паціскае плячыма)*. А я дык чуў, што Кароль наш зусім занядужаў...

Кароль. Глупства! *(Б'е сябе кулаком у грудзі.)* Ён яшчэ ўсіх сваіх нядобразычліўцаў перажыве! Скажы лепей, што ты будзеш рабіць, калі, крый Божа, пазачыняюць усе крамы?

Майстра. О, ворагу свайму не пажадаю таго, што тады са мной будзе! Галодным застануся. Але сёння чаго нам турбавацца? Частуйся, браце мой, будзь як дома.

Кароль. Дзякуй, ужо вячэраў. *(Устае.)* Мусіць, пайду я ўжо. Хачу толькі папярэдзіць: казалі мне па сакрэту, што Кароль раніцою аб'явіць заўтрашні дзень святочным. Будзе загадана, каб ніхто не працаваў у майстэрнях, каб ніхто не гандляваў у крамах. Ці зможаш ты заўтра ўвечары весяліцца пасля гэткага каралеўскага ўказа?

Майстра *(ускаквае)*. А каб на яго тры пагібелі і адна трасца! *(Кароль абражаны і мімаволі замахваецца на Майстра мыліцаю, але спахопліваецца ды робіць выгляд, што пахіснуўся. Маршалак між тым паспешліва занатоўвае Майстравы словы.)* Але нічога, браце мой: для аднаго па справах збегаю, другому вады нанашу, трэцяму дровы пасяку! Зараблю ўсё-такі трохі. Прыходзь да мяне заўтра ў госці!

Кароль. Дзякуй! Абавязкова зайду. Дабранач! *(Шкандыбае на мыліцах у глыб сцэны.)*

Майстра *(разам з жонкаю)*. Дабранач! *(Сыходзяць за кулісы.)*

Кароль заўважае Маршалка, уладным жэстам кліча да сябе.

Маршалак *(паспешліва падбягае, пачціва схіляе голаў)*. Слухаю, Ваша Каралеўская Мосць!

Кароль *(здымае павязку і аддае разам з мыліцамі Маршалку)*. Забярэш раніцою гэтага разумніка на службу, дасі зброю і паставіш вартавым. Сачы, каб Майстра ні на мінуту не адыходзіўся ад брамы! Пагляджу я, што ён увечары заспявае.

Кароль з Маршалкам сыходзяць за кулісы. Гасне святло, а пасля трох udaраў гадзінніка запальваецца зноў.

## ПРАЯВА 3-я

Майстра сядзіць пры пустым стале. Майстрава жонка тужліва пазірае на мужа. Кароль, пераапрануты жабраком, згорбіўшыся, сядзіць у глыбіні сцэны пры кулісе.

Майстра. Вось гора дык гора! А каб ты, кароль, згарэў ды са сваёю службаю! Гэта ж трэба: цэлы дзень прастаяў я на варце і нічога не мог зарабіць!..

Майстрава жонка *(падыходзіць бліжэй)*. Чаго ты так гаруеш, мой мілы! Іншыя і тыднямі не маюць спажытку. Жабракі вунь па дванаццаць і нават па сорак дзён сядзяць без кавалка хлеба. Хіба ж мы аднаго дня не вытрымаем?!

Майстра. Вытрымаем, але ўчора я запрасіў жабрака ў госці і дакляраваў яму пачастунак...

Майстрава жонка *(уздыхае, а потым з цікаўнасцю прыглядаецца да мужа)*. А што гэта ў цябе на поясе?

Майстра. Як гэта што? Меч з княжацкае збраёўні.

Майстрава жонка. Сапраўды? Мусіць, дарагая рэч...

Майстра. Анягож! Востры, як брытва! *(Выцягвае меч з похваў.)*

Майстрава жонка. Затое ў нас у хаце ўсе нажы патупіліся. На вось, навастры хоць адзін, развейся крыху! *(Падае Майстру ножык.)*

Майстра точыць ножык, потым стругае палку, выпрабоўваючы, ці навастрыўся. Раптам узрадавана падхопліваецца.

Майстра. Жонка, хадзі сюды! Глянь, што я прыдумаў! *(Жонка падыходзіць.)* Бачыш, адзін бок на палцы завастрыўся, нібыта меч? Зараз я абгаблюю гэтую палку, укладу яе ў похвы, а сапраўдны меч аднясу ды прадам дзе-небудзь па-суседству. Панакупляю за выручаныя грошы ежы ды пітва, і, як заўсёды, весела сядзем за вячэру! *(Спрытна стругае палку, хавае яе ў похвы, а сапраўдны меч бярэ пад паху.)* Чакай, я хутка збегаю.

Майстрава жонка. Вяртайся хутчэй, а я пакуль накрыю на стол.

Як толькі Майстра знікае за кулісаю, Кароль набліжаецца, грукае мыліцаю.

Кароль *(ціха, сам сабе)*. А, д'ябал, забыўся, на якую гэта я нагу кульгаў? *(Падкурчвае спачатку правую, а потым левую нагу. Пытаецца ў Майстравай жонкі.)* А што, гаспадара няма?

Майстрава жонка. Прашу госця праходзіць ды садзіцца да стала. Я зараз накрыю, і муж мой тым часам вернецца.

Кароль. Ці не ён гэта пабег, аж пыл курэў, з нейкай палкай пад пахаю?

Майстрава жонка. То не палка была...

Кароль. А што?

Майстрава жонка. Не магу сказаць нават госцю: вялікі сакрэт. *(Затуляе рот далонямі, надае твару таямнічы выгляд, але не вытрымлівае, гаворыць далей.)* Далі майму мужу зброю на каралеўскае службе, вось такі-і *(шырока разводзіць рукі)* меч. Вырашыў муж прадаць гэты сапраўдны жалезны меч, а замест яго... *(Спыняецца на паўслове, зноў затуляе рот далонямі, бо згледзела, што заходзіць Майстра.)*

Майстра *(заўважае госця)*. А, браце мой, ты ўжо тут! Выбачай, запазніўся я трохі. *(Падае пакункі жонцы, садзіцца за стол.)* Сёння наш Кароль пагнаў мяне на службу ў палац. Ну паглядзі, скажы, які з мяне ваяка?

Кароль. Павінен жа нехта служыць...

Майстра. Шмат табе дала служба ў караля?!

Кароль. Твая праўда. Як стаў я ў бітве калекам, дык мяне і выштурхнулі з каралеўскае службы ў каршэнь. *(Грукае мыліцаю аб падлогу.)* Цяпер вось мушу жабраваць.

Майстра. Хай ідзе ў войска той, хто да яго прыдатны, той, каму даспадобы цягаць зброю. Кожнаму сваё...

Кароль *(перапыняе)*. А калі раптам вайна, калі трэба будзе бараніць Айчыну?

Майстра *(хапаецца за ручку мяча)*. Тут я гатовы. А так, з-за нейчага капрызу, навошта мне, цывільнага чалавека, ад працы адрываць?! Сёння вось прастаяў я ўвесь дзень вартавым і нічога не змог зарабіць.

Майстрава жонка тым часам падае на стол.

Кароль *(здзіўлена разводзіць рукамі)*. На якія ж грошы такі багаты пачастунак?

Майстра. Слухай! Прыйшоў я дадому, сяджу галодны, бядую, што няма чым накарміць сям'ю, ды раптам падумаў - не прымусіць жа мяне Кароль і напраўду забіваць каго-небудзь?! Дастаў я свой меч, прадаў яго, а ў похвы ўклаў драўляны, выстругany з палкі. *(Выцягвае з похваў, паказвае Каралю меч-дзеравяшку.)* Адкуль Каралю здагадацца, што ў мяне ў похвах? Глядзі, браце мой, які ў мяне меч!

Кароль бярэ дзеравяшку ў рукі, уважліва разглядае, шматзначна ківае галавою. Гасне, а пасля чатырох удараў гадзінніка зноў запальваецца святло.

## ПРАЯВА 4-я

Каля рампы няспешна расхаджвае Майстра. На поясе ў яго ў похвах матляецца меч. Майстрава жонка прынесла мужу і раскладвае сціплы сняданак - рэшткі ўчарашняе вячэры.

У глыбіні сцэны на троне сядзіць Кароль. На галаве ў яго карона. Кароль пазірае на Майстра, зларадна пасміхаецца. Да Караля набліжаецца Маршалак, спыняецца, схіляе голаў.

# УЛАДЗІМІР СІЎЧЫКАЎ
# КАРОЛЬ І МАЙСТРА

Маршалак. Клікалі, Ваша Каралеўская Мосць?

Кароль *(ускаквае з трона, робіць выгляд, што страшэнна сярдуе)*. Зараз я загадаю пакараць цябе смерцю!

Маршалак. За што, Ваша Каралеўская Мосць?

Кароль. Ён яшчэ пытаецца! Чаму не лунае мой сцяг, чаму на замкавай вежы спыніўся галоўны гадзіннік у каралеўстве?! Хочаш, каб падданыя падумалі, што я памёр, што няма больш у іх валадара?! Гэтак ты служыш свайму каралю!

Маршалак *(хапаецца за галаву)*. Гэтага не можа быць! Даруйце, Ваша Каралеўская Мосць! Даруйце, але гэта можна вельмі хутка паправіць. Зараз я паклічу, зараз я прывяду гадзіннікавага майстра, якога па вашаму загаду паставіў вартавым каля брамы. Гэй, вартавы! *(Падбягае і хапае Майстра за руку, цягне да Караля.)* Гэта ён, ён вінаваты!

Следам за Маршалкам і Майстрам разгублена ідзе Майстрава жонка.

Кароль. Можа, і так. Ён адрамантуе гадзіннік на замкавай вежы, але спачатку адсячэ табе галаву. *(Кажа да Майстра.)* Чуеш, вартавы, загадваю пакараць смерцю гэтага нядбайніка і хлуса!

Маршалак *(падае на калені)*. Даруйце мне, Ваша Каралеўская Мосць!

Майстра. Вялікі літасцівы кароль, даруйце яму! Невук ён, памыліўся, з кім не бывае...

Кароль. Нельга яму даравацы! Ён так павінаваціўся перада мною, што і павесіць яго мала. Зараз жа адсячы яму галаву, а не то я цябе пакараю смерцю!

Майстрава жонка *(таксама ўкленчвае, заходзіцца слязамі)*. Злітуйся, пашкадуй, вялікі кароль!

Майстра *(разгублена)*. Я зараз, зараз. *(Напалову выцягвае свой меч з похваў, паспешліва хавае яго назад.)* Вялікі кароль, мая жонка не выносіць, не можа бачыць крыві. Можа, усё-такі лепш павесіць Маршалка? У мяне дома ёсць цудоўная вяроўка, я хуценька збегаю па яе... *(Парываецца бегчы.)*

Кароль. Пакінь яе сабе. Ты што, не чуў?! Я сказаў: "Адсячы яму галаву!"

Майстра *(узнімае рукі ўгору, умольна глядзіць на неба)*. Божа, калі толькі ні ў чым не вінаваты гэты бядак перад Каралём, калі не сышоў час, адмераны яму на белым свеце, дык няхай адзеравянее мой меч, хай абернецца мой меч з жалезнага ў драўляны! *(Выхоплівае з похваў свой драўляны меч.)*

Анямелы Маршалак здзіўлена пазірае то на меч, то на Караля, кідаецца Майстру ў ногі.

Кароль *(задаволена ўсміхаецца)*. Устаньце! *(Маршалак і Майстрава жонка падымаюцца з каленяў.)* Майстра, мне спадабалася твая дасціпнасць і знаходлівасць. Хочаш, я прызначу цябе сваім маршалкам?

Майстра. Дзякуй, вялікі кароль! Але найвялікшаю ўзнагародаю мне быў бы ваш дазвол займацца сваёй справаю.

Кароль. Ну што ж, гадзіншчык, хай будзе па-твойму. Але не магу не ўзнагародзіць цябе па-каралеўску. *(Кажа да Маршалка.)* Дацы яму кашалёк золата і кашалёк серабра!

Маршалак *(радасна кідаецца выконваць загад)*. Слухаюся, Ваша Каралеўская Мосць! *(Выцягвае з-пад трона, адкідае ўбок мыліцы, валачэ да рампы дзве торбы з надпісамі "Золата" і "Срэбра".)*

Кароль. Мяне чакаюць дзяржаўныя справы, а ты, Майстра, ідзі дадому і жыві, як жыў!

Гадзіннік б'е дванаццаць разоў. Кароль тым часам сыходзіць за кулісы. Майстра з жонкаю і Маршалак кланяюцца ўслед. Маршалак дапамагае ўзваліць на плечы торбы з грашыма Майстру і яго жонцы. Усе яны выходзяць за процілеглую кулісу.

Заслона

  

# КАСЯК НА "В"




**Управа:** 1/ зведаны на практыцы, 2/ у Рыме, 3/ птушка, якая пачынаецца жанчынай, 4/ перамога пасля гульні, 5/ левы бок, 6/ не адзін на рэйках.
**Улева:** 7/ сцеражыся яго, 8/ створаны фантазіяй, 9/ летам, 10/ дзяржава польскіх братанкаў, 11/ чалавек, як не чалавек, 12/ расліна ў хаце.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на разетку з 40 н-ра. **Управа:** штучка, шворан, штатыў, шпагат, шкурка, шэрсць, шмалец, шчыток. **Улева:** штылет, шнурок, шчотка, шпацыр, шчупак, штрукс, шчасце.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Лукаш Пацэвіч і Аляксандр Дабчынскі** з Беластока. Узнагароджаных просім зайсці ў рэдакцыю за прызнанымі ім кніжкамі.




**Дзень добры, шаноўная рэдакцыя!!!**

Звяртаюся да вас за дапамогай. Справа ў тым, што я прагну стаць сапраўдным фермерам. На вялікі жаль, на Беларусі няма стабільнай эканомікі, а таму і няма стабільнай гаспадаркі. Мне вельмі хочацца папрацаваць на Беласточчыне ў сапраўднага беларуса. Сам я праваслаўны чалавек, але свядомы беларус. Хоць мне не адзін раз казалі, што я нацыяналіст. У душы я па-першае хрысціянін, а ўжо па-другое — беларус. Не вельмі дасканала, але валодаю польскай мовай, добра разумею расейскую, украінскую. Хацеў бы прынесці карысць сваёй Бацькаўшчыне, але для гэтага мне патрэбна навучыцца. Выхад з гэтага становішча я бачу ў тым, каб навучацца больш на практыцы, чым (гэта таксама важна) на тэорыі.

Аб сабе магу напісаць толькі тое, што мне 20 гадоў, і нягледзячы на той заняпад, што робіцца на Беларусі, жадаю застацца і рабіць усё, каб наша Бацькаўшчына квітнела.

З вялікай павагай да вас,
**СЯРГЕЙ САСНОЎСКІ**

**Ад рэдакцыі:** Нашых гаспадароў — фермераў, — якія маглі б дапамагчы Сяргею здабыць веды наконт вядзення прыватнай гаспадаркі, просім пісаць на адрас:
Сасноўскі Сяргей, 220-055 Беларусь, г. Менск, пр. „Ізьвесьція" 22-1-52.




Сніцца мне, што ўсе працаўнікі нашага прадпрыемства знаходзяцца недзе ў вёсцы, на бульбе. Накапалі бульбы, ссыпалі ўсю з мяшкоў на адну кучу і пачалі перабіраць: вялікую — на адну горбу, малую— на другую. Вялікая бульба была сапраўды вялізная, затое малой, малюсенькай, але прыгожай было вельмі шмат. Я прачнулася і пастаралася запамятаць гэты сон, бо адчувала, што гэта нешта важнае.

**Міра**

І мне прысніўся сон пра працоўны наш калектыў. Быццам стаю я на беразе мора. Зіма. У вадзе відаць кавалкі ільду. Мае супрацоўнікі маюць плысці на плыце некуды загранiцу, у лепшую краіну. Трэба было, аднак, з берага даплысці да гэтага плыта. Некаторыя з маіх сяброў і сябровак ужо пераплылі гэты кавалак і стаяць на плыце. Падыйшла мая чарга. Я ўваходжу ў ваду і лёгенька-лёгенька плыву, хаця вада зімовая, у ёй поўна лёду. Узлажу на плыт. Што можа абазначаць мой сон?

**Аня**

Міра! Твой сон пра бульбу прадвяшчае твайму прадпрыемству нейкі поспех, а мо прыбытак.

Аня! І твой сон абазначае для твайго калектыву дасягненне поспеху і дабрабыту, нягледзячы на зіму і лёд, якога было шмат у вадзе. Відаць, асяроддзе, у якім ты працуеш, не было занадта добразычлівае ў адносінах да вас. Але будзе лепш!

**АСТРОН**




## ПІЦЦА ПА-ТУТЭЙШАМУ

Прадукты: 25—30 дэкаў мукі, 2 дэкі дражджэй, 8 лыжак алею, соль, перац, 5 лыжак таматнай пасты, 3 вараныя яйкі, 20 дэкаў пячурыц, 30 дэкаў сцертага на тарцы жоўтага сыру, 3 зубкі часнаку, 2 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Пячурыцы, ачышчаныя і памытыя, дробна нашаткаваць і крыху падсмажыць на 3 лыжках алею, пасаліць. Прасеяць муку, дадаць раскрышаныя дрожджы, перамяшаць, пасыпаць соллю і перцам, дадаць 5 лыжак алею і столькі вады, каб атрымалася густое цеста, крыху цвярдзейшае як на кладзеныя клёцкі. Добра вымясіць яго драўлянай лыжкай.

Круглую тартоўніцу ці малыя патэленькі на адну порцыю змазаць алеем. Цеста вылажыць у падрыхтаваныя формачкі (найлепш драўлянай лыжкай, змочанай у алеі). Цеста павінна пакрыць дно і на вышыню 1—2 см заходзіць на берагі посуду.

Зверху цеста змазаць алеем, пасыпаць перцам і раўнамерна развесці на ім таматную пасту. Тады пасыпаць пятрушкай і пасечаным часнаком, палажыць парэзаныя на чвэрткі ці на скрылёчкі яйкі (можна дадаць пару скрылёчкаў капчонага бачку), на гэта вылажыць пячурыцы, пасыпаць сцертым на тарцы сырам. Сыр павінен цалкам пакрыць пячурыцы.

Запячы піццу ў гарачай духоўцы. Павінна яна быць светлазалатога колеру. Падаваць гарачую з салатай і, яшчэ лепш, з чырвоным (сухім!) віном.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ДУМКІ ДЗЕДА АНТОНА

У сераду ездзіў я на рынак. У аўтобусе, як нейкі пан, сеў я на мяккае крэсла, каля самога вадзіцеля. За маімі плячыма стаялі два маладыя хлопцы, гадоў пад трыццаць. Адзеты былі яны па-гарадскому, але гаварылі па-вясковаму. Аднак мяне зацікавіла не іхняя мова, а тое, пра што яны гаварылі.

Адзін з іх жыве ў Беластоку, а другі ў Гайнаўцы. Той беластоцкі, Пеця, расказваў пра тавары ў нейкім секс-шопе, а той з Гайнаўкі слухаў пра ўсё гэта рот разявіўшы.

Спярша я не ведаў, пра што яны гавораць, але калі дайшло да мяне, што ў гэтым магазіне прадаюцца прылады, якія могуць заступіць мужчыну ў ложку, тады пачаў і я лавіць кожнае слоўца. Вось, што гаварыў той Пеця:

„Цяпер, калі нават і больш вып'ю, то жонка да мяне прэтэнзіі не мае. Калі я не ў сілах, вібратар мяне выручыць. Ужо не паўтарае, што я не мужчына. Праўда, пасля некалькіх кілішкаў я думаю толькі, як легчы і заснуць, а яна мне заўсёды дапякала, што мужчынскасці ў мяне мала. А цяпер, калі нават і нічога не атрымоўваецца, то ўжо не сакоча над галавою і дасць паспаць."

Так гаварыў той Пеця. А я не мог зразумець, чаму такі малады мужчына карыстаецца нейкімі прыладамі? Да чаго ж гэта дайшло? Нават да тае работы няма ўжо ў іх сілы?

Я век амаль пражыў, але карыстаўся сваім мужчынскім багаццем столькі, колькі жонкі дапускалі. Часам, праўду кажучы, нават часцей, чымсці мае бабы хацелі і маглі. Святым я не быў, але супраць сваe мужчынскасці не грашыў. А яны бач як распанелі?! Ні да работы, ні да параженькі! Гарадскія гультаі, каб на іх трасца!

Не думаў, што дачакаю такіх часоў. А што нас яшчэ чакае, сам ужо не ведаю.

**ДЗЕД АНТОН**

Карысна для здароўя

## ТРЫХІНА

Свіное мяса трэба абавязкова даследаваць на прысутнасць чарвей званых трыхінеламі, якія з'яўляюцца ўзбуджальнікамі трыхінелёзу - хваробы, якую ў нас называюць трыхінай. Трыхінелы могуць жыць у арганізме чалавека, менавіта ў мышцах, да 50 гадоў. Забіць трыхінелу можна ў тэмпературы 320°С, або трэба кіпяціць яе дзесяць дзён. Хвароба выяўляецца на 15-18 суткі пасля заражэння.

У чалавека трыхіна праяўляецца ацёкам твару, болем у мышцах, ліхаманкай. Калі не лечыць яе, чалавек паміраe.

Апрача фармакалагічных сродкаў лечаць хваробу спіртам. Здаралася, што п'яныя вясельнікі, якія з'елі заражанае мяса, не хварэлі на трыхіну.

Лепш аднак пайсці нават 50 кіламетраў пехатою - там і назад - да ветэрынара,каб не захварэць на гэтую страшэнную хваробу.

**БАРЫСЛАЎ РУДКОЎСКІ**

**МНОГАЕ, БРАТОК, ГУБЛЯЕШ, КАЛІ "НІВУ" НЕ ЧЫТАЕШ!**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1993 r. upływa 20 listopada 1992 r.
2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
4. Prenumeratę można zamowić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МА КАТ РАЗМЫ

**РЫСАЧОК**

Скакаў Яська ветрагонны
Па гісторыі крутых зломах.
Нёс надзею, будзіў сонных,
Здабыў тытул ашалома.

**СТАРАЯ ЛЯРВА**

Геніяльна віхляе азадкам,
А глядзець гадка.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

— Калі б я даведаўся, што ты мне здрадзіла, забіў бы! — пагразіў муж жонцы.

Прайшло тры тыдні і жонка без ведама мужа забрала свае рэчы і адыйшла. Праз тыдзень муж яе знайшоў.

— Чаму ты мяне пакінула? Я ж цябе не біў. Стараўся жыць, як трэба?..

— Ты ж сам казаў, што заб'еш, калі даведаешся. Тады я рашыла адысці да яго, — таго, з кім табе здрадзіла!

* * *

— Чаму нарачоныя ўсе добрыя, а мужыкі амаль усе — дрэнныя? — пытае дзяўчына ў жанчыны.

— Нарачоны хоча прыдбаць сабе апеку ў будучыні, а муж вымагае ад тае апекі Бог ведае чаго.

* * *

— Чаму ў цябе сінякі на твары? — пытае Марыся сяброўку, якая нядаўна выйшла замуж.

— Гэта знакі мужавага кахання.

* * *

— Цэлае жыццё сумленна і цяжка працаваў, а цяпер атрымоўваю столькі пенсіі, што на хлеб не хапае, — скардзіцца пенсіянер Коля.

— Не перайма́йся. Ідзі і цярпліва і сумленна жабруй пад царквой або на базары, — раіць Васіль.

* * *

Сяброўка Валі выехала за мяжу. Праз год выйшла замуж за багатага старога бізнесмена. Праз паўгода той памёр і ўсё багацце ёй засталося, бо муж не меў больш нікога.

— Жыву цяпер, як каралева, — хвалілася Еля ў кожным лісце.

— Дарагая Еля, — напісала Валя. — Прашу цябе, каб ты і мне знайшла такога ж багатага мужа.

— Шукай сабе сама, — адпісала ёй сяброўка. — Мне такі прыдаўся б цяпер разоў дзесяць больш, чым табе.

**АЎРОРА**





*Мал. А. Гурскага*

**СЦІВЕН ЛІКОК**

## АХВЯРА ПРАГРЭСУ

Нядаўна я прачытаў у газетах, што прафесар Плам з Чыкагскага універсітэта вынайшоў высокаканцэнтраваную форму ежы. Усе неабходныя для падтрымання жыццёвых сіл элементы змяшчаюцца ў таблетцы, якая можа ўтрымліваць калорый у дзвесце разоў болей, чым такая ж колькасць ежы. Адна такая таблетка, разведзеная невялікай колькасцю вады, можа замяняць дзённую норму ежы. Прафесар спадзяецца, што яго адкрыццё выкліча рэвалюцыю ў харчовай прамысловасці.

Я не маю нічога супраць прагрэсу, але і ён не заўсёды нясе нам самае лепшае. У светлай будучыні, якую прадказвае нам прафесар Плам, я магу лёгка ўявіць і такое здарэнне:

Шчаслівая сям'я ўладкоўваецца за святочным сталом. Стол гнецца ад супавых талерак, што стаяць перад кожным з дзяцей. Супніца з гарачай вадой і таблетка. Накрытая залатым напарстакам. Бацька падымаецца, і гучны шэпт дзяцей сціхае, калі ён падымае напарстак і ўсе бачаць маленькую таблетку. Індычка з соусам, слівавы пудынг, пірог — усё гэта там, у таблетцы і толькі чакае часу, калі на яго трапіць вада. Бацька ўздымае вочы да неба і пачынае малітву.

Але тут яго спыняе гучны крык маці.

— О, Хенры, хутчэй! Малыш схапіў таблетку!

Так. Анёлападобны, залатавалосы Густаў Адольф, схапіў святочны абед і праглынуў яго. Трыста пяцьдзесят фунтаў канцэнтраванай ежы апынуліся ў страўніку нявіннага дзіцяці .

— Пахлопайце яго па спіне! — крычыць маці. — Дайце яму вады!

Але апошняя парада аказалася фатальнай. Як толькі вада трапіла на таблетку, тая пачала расці. Пачулася гучнае „бах!", і небарака Густаў Адольф разляцеўся на кавалкі!

Калі яго сабралі разам, дык на твары нябожчыка была шчаслівая ўсмешка, якая можа быць толькі ў дзіцяці, якое за адзін раз з'ела трынаццаць калядных абедаў.

*З англійскай пераклаў*
*Алесь Кудраўцаў*




*Мал. Анатоля Гармазы („Вожык")*

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Славутасць — гэта чалавек, які ўсё жыццё многа працуе, каб стаць вядомым, а потым носіць цёмныя акуляры, каб яго не маглі пазнаць.

* * *

Адзін чалавек упусціў свой гадзіннік з верхняга паверха Эмпайр стэйт білдынг, спусціўся ўніз на экспрэсліфце і злавіў яго, перш чым ён упаў на тратуар. Відаць, гадзіннік адставаў.

* * *

Настаўнік паясняе вучням правілы добрага тону:

— Па лесвіцы мужчына заўсёды ідзе перад дамай. А ці хтосьці з вас ведае, чаму?

Руку падымае Жак:

— Таму, што дама пэўна не ведае, на якім паверсе ён жыве.

* * *

Пісьменнік-раманіст зваяртаецца да лекара:

— Доктар, памажыце мне. Калі я доўга пішу пасля поўначы, то потым не магу закрыць вачэй да самай раніцы.

— А вы ніколі не прабавалі прачытаць перад сном тое, што напісалі?

* * *

Муж і жонка са Стакгольма знялі ў фермера дачу на лета. Праз некалькі дзён жонка прыходзіць да фермера і пытае, куды ёй выкідваць харчовыя адыходы. Фермер параіў купіць парасятка. Гараджане так і зрабілі.

Восенню перад вяртаннем у сталіцу дачніца пытае фермера, ці не хоча ён купіць парасятка.

— Дык як сказаць, усё залежыць ад цаны, — адказвае фермер.

— Мы заплацілі за яго 80 крон, але паколькі цэлае лета ім карысталіся, дык я прадам яго за 40 крон.

* * *

У кухні сваёй кватэры Браўн застаў ноччу злодзея.

— У мяне да вас вялікая просьба, — ветліва сказаў ён злодзею, — пойдзем са мною, і я прадстаўлю вас сваёй жонцы. Разумееце, кожную ноч на працягу дзесяці год ёй мроіцца, што на кухню залезлі зладзеі. Ёй будзе прыемна, што яна мела рацыю ў нашай спрэчцы, калі я ёй гаварыў: „Спі, дарагая, ніхто да нас не залезе".

* * *

У гасцініцы.

— Парт'е, разбудзіце мяне заўтра ў пяць раніцы.

— Добра, мсье, толькі будзьце ласкавы пазваніць мне а паўпятай, каб я, чаго добрага, не праспаў.

**Падборку зрабіў**
**ЯСЕНЬ**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Я табе яшчэ ніколі не пісала. Але цяпер проста мушу з некім пагаварыць.

Я закахалася ў жанатага чалавека. Ты не можаш сабе ўявіць, які ён цудоўны! І ён, здаецца, кахае мяне, хаця з гэтым каханнем па-рознаму бывае. Мяне дражніць, напрыклад, што, калі сустракаемся, ён заўсёды спяшаецца дахаты. Я разумею, што ў яго жонка і дзеці, але і ён павінен зразумець мяне. Я ж цэлы дзень яго чакаю, думкі пра яго не выходзяць у мяне з галавы, уяўляю, як будзе прыемна, калі мы сустрэнемся. А ён прыходзіць да мяне дахаты пасля працы, мы праводзім разам гадзіны 2—3, і ўжо бяжыць хутчэй да сваіх.

А мо ён проста баіцца жонкі?! Бо вельмі часта спаглядае на гадзіннік, каб хаця паспець на якую шостую на абед. Хоча з дзецьмі перад сном пабачыцца. А казаў жа, што з жонкай развядзецца і мы пажэнімся...

Аднаго разу дык проста мяне раззлаваў. Пасля працы пад'ехаў да мяне таксоўкай. Мы хуценька паехалі да мяне дахаты. Там ён выцягнуў бутэльку каньяку, я мела крыху яды. Мы выпілі і закусілі. І... зараз жа ўзяўся за мяне. Мне хацелася пабыць з ім, пагутарыць, расказаць пра свае клопаты. А яму ў галаве адно. Я ведала, што пасля таго, як мы пакахаемся, ён адразу пабяжыць дамоў. Як заўсёды, зрэшты. А мне так захацелася, каб ён яшчэ пабыў са мною. Дык сказала, што дамовілася з сяброўкай у кавярні, у вельмі важнай для мяне справе.

Бадай ты, Сэрцайка, не маеш да мяне прэтэнзіі за гэту дробную ману?! Мне часамі таксама хочацца даказаць людзям, што я — не адна, што і ў мяне ёсць мужчына. Вось і выцягнула яго да людзей.

Ніякай сяброўкі ў кавярні, вядома, не было, бо ні з кім я не дамаўлялася. Мы выпілі там пепсі-колу. Ён хацеў хутчэй ісці назад да мяне дадому. А я цягнула. Не ведаю, ці нейкі чорт мяне тут трымаў, ці што. Узяла злосць на майго каханка, на ягоную жонку і дзяцей. Будзь што будзе! Не хоча быць са мною — няхай будзе адзін, хай вяртаецца да сваёй сям'і!

Але не, ён адзін не вярнуўся. Было ўжо каля восьмай вечара, калі мы прыйшлі да мяне. Кахаліся, як ніколі. Быццам бы мяне не бачыў мінімум месяц. Было цудоўна, і я была шчаслівая.

Тады я ўстала і пайшла памыцца. Выйшаўшы, убачыла, што яго няма. Выйшаў без развітання. Пабег да сваёй жонкі.

Цяпер не хачу яго бачыць. Калі ёсць для яго нешта лепшае, даражэйшае — дык няхай з ім будзе. Не будзе ён з мяне рабіць анучу.

**Каця**

Каця! Ты сама згадзілася на тое, каб быць у нейкай ступені анучай, рашаючыся на сужыццё з жанатым мужчынам. Не можаш мець да яго прэтэнзіі, што, убачыўшы цябе, не кінуў адразу жонку і дзяцей. Можа і спалучае вас нітка кахання, але тоненькая яна і кволая. Ты, відаць, адпавядаеш яму ў пасцелі, але рэшта —жонка і дом — для яго важнейшая. Вось і спяшаецца ён, каб не было лішніх размоў у хаце, каб усё было шыта-крыта. Хацеў бы, можа, быць даўжэй з табою, але не можа.

На яго развод з жонкай занадта не разлічвай — інакш бы так ён не спяшаўся.

Ды і наогул, пачынаючы такую гісторыю, трэба ад пачатку ўсведамляць, на што ідзеш.

**СЭРЦАЙКА**